КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 40 (312) ◂ 19 кастрычніка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ЦІ ВЫПУСЦЯЦЬ АЛЯКСАНДРА КРУТОГА?**

Стар. 5

**СЛАВАЦКІ ШЛЯХ**

Для дэмакратычных сіл Беларусі параўнальнае асэнсаванне пасляховага досведу суседзяў — жыццёвая неабходнасць. Каб больш дакладна зразумець, чым мы падобныя і чым адрозніваемся, у чым памыляліся. Зразумець і ўрэшце здзейсніць прарыў з багны аўтарытарнага застою і напаўкаланіяльнай залежнасці на агульнацывілізацыйны шлях развіцця

Стар. 6

**КАМУ КІРАВАЦЬ АЛЕКСАНДРЭТАЙ?**

Цяперашні ўсплёск напружанасці ў адносінах паміж Турцыяй і Сірыяй можа пахаваць амаль адзіны ў сучаснай гісторыі прыклад мірнага ўладкавання міжнацыянальнага канфлікту на Блізкім Усходзе

Стар. 12

ISSN 2218-2144




**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ВЫБАР ГЕНЕРАЛА КАСЦЮШКІ**

Нарыс Ігара Мельнікава

▸ **З НАГОДЫ**

# СЕАНС МЕДЫЯ-ТЭРАПІІ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Больш за чатыры з паловай гадзіны 16 кастрычніка кіраўнік Беларусі выдаткаваў са свайго каштоўнага часу дзеля сустрэчы з чарговай вялікай групай расійскіх журналістаў.**




Амаль дзевяноста прадстаўнікоў з васьмідзесяці медыя ўжо паўтыдні знаходзіліся на тэрыторыі нашай краіны, дзе ім зноў дэманстравалі ўсялякія дасягненні і перавагі беларускага ладу жыцця. А прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі стала своеасаблівым апагеем гэтай вандроўкі.

Але варта адзначыць, што і беларусы штосьці новае даведаліся ад афіцыйнага лідара. Усё ахапіць у невялічкім артыкуле немагчыма. Таму акрэслім толькі некаторыя моманты. Напрыклад, што прэзідэнт адмовіўся ад хабару ў 5 мільярдаў долараў, калі яму прапанавалі прыватызаваць «Беларуськалій». Як паведаміў Лукашэнка расійскім журналістам, гэтае прадпрыемства «хочуць купіць за 15 мільярдаў некаторыя вашы алігархі». «Некаторыя здурнелі і прапанавалі аднаму багатаму расійскаму чалавеку, што можа ўваходзіць да мяне: «Вы яму (Лукашэнку) скажыце — вось 10 мільярдаў плацім, а 5 мільярдаў — яму, куды скажа», — працягваў афіцыйны лідар. Па словах Лукашэнкі, пасярэднік перадаў яму гэтую прапанову, але прэзідэнт адрэагаваў наступным чынам: «Я кажу яму — Міша, я не буду на цябе кайданкі адзяваць, але ты больш да мяне з такімі ідэямі не прыходзь».

Імя «Міша» амаль усіх назіральнікаў навяло на думку, што гэта можа быць расійскі алігарх Міхаіл Гуцэрыеў, у якога насамрэч добрыя стасункі з беларускім кіраўніком. Падкантрольная яму «Руснафта» займаецца пастаўкамі сыравіны на беларускія НПЗ. Прадстаўнікі Гуцэрыева адразу адмежаваліся ад такіх медыя-меркаванняў: «Бязглуздзіца!»

Разам з тым, беларускі кіраўнік паведаміў, што атрымаў на дзень нараджэння ад аднаго «расійскага чалавека» «Майбах». «Машына стаіць у гаражы, я аддаў у гараж дзяржаве, яна павінна абслугоўваць прэзідэнта… Тыдзень таму я спытаўся: дзе машына? Там дзверка перакошаная, яе рамантавалі. Нядаўна кіроўца сказаў: на «Камунарку» паедзем, але я (гэта словы кіроўцы) не стаў яе браць… Нават кіроўца разумее, што нават прэзідэнта нельга на гэтай рэдкай машыне вазіць», — шчыраваў Лукашэнка. Узнікае пытанне, а чаму ж дзверка перакошаная? Няўжо такую падарылі?

У сеціве з'явілася інфармацыя, што такая машына можа каштаваць ад паўмільёна ўмоўных адзінак. Старшыня АГП Анатоль Лябедзька ўжо падрыхтаваў зварот у Генпракуратуру і падатковую інспекцыю па горадзе Мінску, дзе заклікае гэтая структуры адрэагаваць на заявы Лукашэнкі наконт «Майбаху» — даведацца, ці сплачваныя з гэтага падарунку падаткі і калі адбыўся сам факт гэтага падарунку. Думаю, вынік запыту можна прадказаць ужо зараз.

Рабіць шматгадзінныя прамовы перад расійскімі журналістамі для Лукашэнкі справа звыклая, але складваецца ўражанне, што сваімі словамі ён перадае прывітанні не толькі Маскве, але і ўласнаму электарату. Тое, што Лукашэнка чарговым разам каткам пройдзецца па сваіх апанентах, было прадказальна, таму і спыняцца на гэтым не варта. Але вось навошта было перад расійскімі журналістамі ганьбіць нацыянальную футбольную зборную? Так, каманда з буйным лікам (0:4) на сваім полі саступіла зборнай Іспаніі. Але ж гэта дзеючыя чэмпіёны свету і Еўропы!

«Была праблема, што людзі не пойдуць на зборную. А да нас іспанцы павінны былі прыехаць. Я думаю: ладна, уключым адміністрацыйны рэсурс, збяром людзей. І што? Такой ганьбы нацыі, як гулялі, я не бачыў. Абхезаўшыся, выйсці на поле, з дрыжачымі рукамі і нагамі… Сабраў народ — 40 тысяч чалавек. А цяпер ім перадайце прывітанне. Скажыце, што я ім людзей збіраў», — грымыхаў прамоўца.

Што ж гэта за краіна і сістэма, што нават на футбольныя гульні кіраўнік дзяржавы мусіць збіраць гледачоў з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу? І што гэта за лексікон у адносінах да «зборнікаў»?

Былі выказванні і з шэрагу раду «Я — і вялікія». «Я далёкі-далёкі ад Уладзіміра Ільліча і Іосіфа Вісарыёнавіча, таму мне да іх яшчэ топаць і топаць. У мяне, канешне, некалькі свая ацэнка параўнальна з расійскім грамадствам Сталіна і Леніна. Але, па меншай меры, так да іх ставіцца не павінны. Гэта нашы былі кіраўнікі: Ленін стварыў дзяржаву, Сталін яе ўмацаваў. І пройдзе яшчэ паўстагоддзя. Як жа нас ацэняць, мяне?» — задаецца пытаннем Аляксандр Лукашэнка. Гэтыя словы — «па Фрэйду». Створаная ў краіне сістэма, якая ўшаноўвае Сталіна-Леніна, захоўвае ўсе атрыбуты бальшавіцкай эпохі, пачынаючы ад тапанімікі і заканчваючы метадамі кіравання дзяржаваю і барацьбы з апанентамі ўлады, не вымагае прызнання чалавеканенавісніцтва тэарэтыкаў і стваральнікаў гэтай сістэмы і яе заганнасці.

І яшчэ адзін паказальны момант — гэта перадача праз журналістаў закідаў расійскаму кіраўніцтву пра неабходнасць аказваць безумоўную падтрымку беларускаму партнёру. «Мы атрымалі глабальны крызіс беларускай сістэмы, калі ўвялі летась мыты на ўвоз іншамарак. Беларусы вывезлі 3 мільярды долараў — палову золата-валютных рэзерваў краіны. Мы былі вымушаныя дэвальваваць нашу валюту. Мы заплацілі дарагую цану за стварэнне Адзінай эканамічнай прасторы і эканамічнага саюза. Але Расія ўступіла ў СГА», — жаліўся журналістам прэзідэнт. А ў працяг запатрабаваў прадаставіць Беларусі «як замежніку» радовішчы для самастойнай здабычы 10 мільёнаў тон нафты і 10 мільярдаў кубаметраў газу. Маўляў, у Венесуэле здабываем, чаму тады не можам гэтага рабіць у «нашай Расіі»?

На думку экспертаў, Расія наўрад ці задаволіць апетыты афіцыйнага Мінска. Затое цяпер у беларускага кіраўніка ёсць магчымасць спісаць усе непрыемнасці і беды на ўсходняга суседа.

Але збольшага спіч Лукашэнкі зводзіўся да пераваг беларускай мадэлі. «Палітычная сістэма нашага грамадства нічым не адрозніваецца ад расійскай. Магчыма, мы толькі крыху больш жорстка вядзем палітыку, але на прынцыпах чэснасці і справядлівасці: так — так, не — не, да пабачэння!» — сказаў афіцыйны кіраўнік. Так што Пуціну, відаць, ёсць яшчэ чаму «падвучыцца» ў беларускага калегі.

БЕЛАРУСЬ—ЕС

# НАМЕРЫ І РАШЭННЕ НЕ СУПАЛІ

Вольга ХВОІН

**Савет міністраў замежных спраў краін ЕС прыняў рашэнне падоўжыць санкцыі ў дачыненні да Беларусі да 31 кастрычніка 2013 года. Пашырэння санкцый не адбылося, ЕС заяўляе, што гатовы да перамоў аб спрашчэнні візавага рэжыму з Беларуссю.**

Савет міністраў замежных спраў ЕС паўтарыў свой заклік неадкладна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязняў у Беларусі, пазітыўна ацаніў вызваленне віцебскага актывіста КХП–БНФ Сяргея Каваленкі, але выказаў занепакоенасць з нагоды інфармацыі аб дадатковых турэмных тэрмінах і неналежным абыходжанні з палітвязнямі.

«Паколькі не ўсе палітвязні былі вызваленыя, а вызваленыя вязні не былі рэабілітаваныя, а таксама з прычыны адсутнасці паляпшэнняў у сферы павагі да правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў савет прыняў рашэнне падоўжыць дзеянне абмежавальных мер да 31 кастрычніка 2013 года», — гаворыцца ў рашэнні ЕС.

Савет заклікае ўлады Беларусі спыніць пераслед грамадзянскай супольнасці, палітычнай апазіцыі і незалежных СМІ, і заклікае Мінск супрацоўнічаць са спецдакладчыкам Савета ААН па правах чалавека па сітуацыі ў Беларусі.

Савет ЕС зноў заявіў аб прыхільнасці развіваць адносіны з беларускім народам і грамадзянскай супольнасцю, у тым ліку праз ініцыятыву «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі». Акрамя таго, Еўрасаюз гатовы пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму і пагадненні аб рэадмісіі, што дасць магчымасць актывізаваць кантакты паміж людзьмі і пойдзе на карысць беларускім грамадзянам. Савет выказвае шкадаванне, што беларускія ўлады так і не адказалі на гэтую прапанову, апублікаваную Еўракамісіяй яшчэ ў чэрвені 2011 года.

Андрэй Елісееў, аналітык Беларускага інстытуту стратэгічных даследаванняў, адзначае, што летам ЕС дэкляраваў больш жорсткія намеры. Аднак рэалізаваць іх амаль немагчыма з прычыны сістэмы, паводле якой прымаюцца бюракратычныя рашэнні.

«Савет ЕС па замежных справах у пэўнай ступені ёсць закладнікам кансенсуснай сістэмы прыняцця рашэнняў. Паколькі прадстаўнікі кожнай з 27 краін ЕС (а з ліпеня 2013 ЕС папоўніцца і Харватыяй) мусяць даць сваю згоду, то фактычна рашэннем становіцца самы мяккі з варыянтаў, якія ёсць на стале. Рашэнне Савета ЕС, паводле якога дзеянне «чорнага спісу» проста падоўжылі, не адпавядае раней выказаным намерам. Так, 10 жніўня ў Брусэлі адбылося пасяджэнне Камітэта па палітыцы і бяспецы Савета ЕС, прысвечанае сітуацыі вакол беларуска-шведскага дыпламатычнага канфлікту. Старшыня Камітэта Олаф Скоог пасля заявіў, што вызначальнымі для Савета ЕС 15 кастрычніка будуць наяўнасць палітзняволеных і апошнія падзеі, уключна з дыпламатычным канфліктам са Швецыяй, — нагадвае аналітык Беларускага інстытуту стратэгічных даследаванняў. — Нягледзячы на тое, што ацэнка выбараў АБСЕ была вельмі крытычнай, палітзняволеныя засталіся, а дыпламатычны канфлікт не вырашаны, частка краін ЕС выступала супраць пашырэння «чорнага спісу». Адзначым, што яго пашырэнне было б асабліва балючым для беларускіх уладаў менавіта зараз, у перыяд няпростых адносін з Расіяй».

Цяпер пад візавыя і эканамічныя санкцыі ЕС падпадаюць 243 беларускіх чыноўніка, у тым ліку Аляксандр Лукашэнка.

На прэс-канферэнцыі для расійскіх рэгіянальных СМІ ў Мінску Аляксандр Лукашэнка заявіў, што разумее прычыну для падаўжэння санкцый ЕС — яго падыходы да палітыкі. Але кіраўнік Беларусі не згодны з меркаваннем, што тут — дыктатура.

Санкцыі ЕС, выказаў сваё меркаванне Лукашэнка, звязаныя і з добрымі адносінамі паміж Беларуссю і Расіяй. «Гэта — крытэр стасункаў Захаду з намі. Калі мы з Расіяй — дзярмо, такія-сякія, ворагі і гэтак далей. Такая ў іх палітыка», — перакананы беларускі кіраўнік.

ЗВАРОТ

# ПАГАВАРЫЦЕ З ГРАМАДСКАСЦЮ

Марат ГАРАВЫ

**Расійскім журналістам прапанавана сустрэцца з беларускай грамадскасцю.**

Пра гэта гаворыцца ў адкрытым звароце Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры да прадстаўнікоў СМІ Расіі — удзельнікаў штогадовага прэсавага туру ў Беларусь. Дакумент падпісалі 31 прадстаўнік ініцыятывы з усіх рэгіёнаў Беларусі.

У звароце, між іншым, гаворыцца: «Вы ў чарговы раз наведалі нашу краіну. І па традыцыі вас імкнуцца запэўніць, як у нас усё хораша і цудоўна. Аднак гэта далёка не так, паколькі вы атрымліваеце толькі афіцыйную, а гэта значыць — аднабаковую інфармацыю.

Мы на ўласным вопыце ўпэўніліся, што беларускія чыноўнікі ўвесь час парушаюць законы, і таму ў нас пануе беззаконне. Мы прайшлі ўсе інстанцыі суда і пракуратуры, аднак не толькі не змаглі ўзнавіць свае парушаныя правы, але нават не змаглі атрымаць на свае скаргі адказы па сутнасці ўзнятых пытанняў, як гэта прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Дзеля ўзнаўлення сваіх правоў мы за апошнія пяць гадоў 38 разоў звярталіся да прэзідэнта краіны як да гаранта нашых правоў і свабод. Аднак кіраўнік дзяржавы так і не сустрэўся з намі. Пры гэтым чыноўнікі Адміністрацыі прэзідэнта прынынілі з намі «ліставанне» і не пускаюць нас далей свайго парогу. А дзеля большага запужвання супрацоўнікі адміністрацыі пачалі пісаць пасквілі ў міліцыю пра неабходнасць «выхаваўчай работы» з намі.

Мы прыйшлі да высновы, што прэзідэнту Беларусі цікавей сустракацца з вамі — грамадзянамі іншай краіны, чым вырашаць праблемы суграмадзян. Мы неаднаразова звярталіся ў Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт за дазволам на пікетаванне дзеля прыцягнення ўвагі грамадства і дзяржавы да праблемы парушэння чыноўнікамі правоў грамадзян. Аднак заўсёды атрымлівалі адмову, нягледзячы на тое, што права на свабоднае выказванне свайго меркавання і правядзенне пікету прадстаўлена нам Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

3 кастрычніка 2011 года мы вымушаны былі выйсці на плошчу Свабоды ў Мінску, каб падчас пікету звярнуць увагу кіраўніка дзяржавы на сітуацыю, якая склалася. Пікет быў жорстка разагнаны, а дзевяць яго ўдзельнікаў былі пакараныя адміністратыўнымі штрафамі. Такім чынам, чыноўнікі прадэманстравалі нам, што пры адсутнасці аргументаў яны выкарыстоўваюць сілу. Большасць з нас — пенсіянеры, мы не належым ні да якога палітычнага лагеру і не змагаемся за ўладу, а толькі жадаем узнавіць свае парушаныя правы, але не маем магчымасці гэта зрабіць у сваёй краіне. Дзеля таго, каб скласці аб'ектыўнае ўяўленне пра Беларусь, мы прапануем сустрэцца з намі і паразмаўляць».

У каментары «НЧ» лідар грамадзянскай ініцыятывы юрыст Тамара Сяргей паведаміла, што актывісты меркавалі перадаць зварот непасрэдна расійскім журналістам. «Для гэтага мы чакалі іх на ўваходзе ў канферэнцзалу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Але прадстаўнікі расійскіх СМІ насцярожана паставіліся да нас, і зварот узяла толькі адна журналістка. Аднак мы спадзяемся, што з тэкстам нашага звароту расійскія госці пазнаёмяцца з беларускай і расійскай прэсы», — сказала юрыстка.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЗАБАРОНА НА ПРАФЕСІЮ

**Аляксей Паўлоўскі просіць дырэктара домабудаўнічага камбіната патлумачыць прычыну адмовы яму ў працаўладкаванні. На думку магілёўскага актывіста незалежнага прафсаюза РЭП, ён у чарговы раз сутыкнуўся з працоўнай дыскрымінацыяй.**

«21 верасня я па накіраванні ад Магілёўскага цэнтра занятасці пайшоў працаўладкоўвацца на Магілёўскі домабудаўнічы камбінат мулярам, аднак там мяне на працу не ўзялі. Спасылаліся на тое, што «калектыў не згодны». Менавіта такі запіс быў зроблены супрацоўніцай аддзелу кадраў дадзенай арганізацыі спн. Загурскай у лістку накіравання», — гаворыць Аляксей Паўлоўскі.

Ён абураны адмовай у прыёме на працу, бо па мерках будаўнікоў Аляксей мае высокі пяты разрад, неаднаразова займаў прызавыя месцы на абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах, не злоўжывае алкаголем, і дадзенай арганізацыі сапраўды патрэбны муляры.

«Каб атрымаць нейкі ўцямны адказ на адмову ў працаўладкаванні я звярнуўся з лістом да дырэктара ДБК, каб той даў адказ, чаму калектыў арганізацыі «прыняў» такое рашэнне. Я таксама прашу дырэктара даць мне копію пратакола пасяджэння працоўнага калектыву, на якім разглядалася пытанне аб маім працаўладкаванні, бо падазраю, што такога пратакола ўвогуле няма.

Акрамя таго, я прашу дырэктара ўзяць мяне на працу і добраахвотна выплаціць мне сярэдні заробак з моманту адмовы мне ў працаўладкаванні. Усіх вінаватых у праяўленні працоўнай дыскрымінацыі датычна мяне прашу прыцягнуць да адказнасці», — кажа Аляксей Паўлоўскі.

Нагадаем, што прафсаюзны актывіст ад лютага бягучага года з'яўляецца беспрацоўным. Апошнім месцам працы Аляксея Паўлоўскага была будаўнічая арганізацыя «Прамжылбуд». Там ён адпрацаваў паводле кантракта адзін год. У сувязі з тым, што ён актыўна змагаўся за паляпшэнне ўмоваў працы і выканання працоўнага заканадаўства, з ім не былі працягнуты працоўны кантракт.

Праз суд актывіст здолеў адсудзіць амаль 12 мільёнаў рублёў і дабіцца змены фармулёўкі ў працоўнай кніжцы, паводле якой наймальнік скасаваў з ім кантракт у сувязі з парушэннем ім працоўнага заканадаўства.

**spring96.org**

ІНІЦЫЯТЫВА

# УСІХ ПАЙМЕННА

Марат ГАРАВЫ

**Напрыканцы кастрычніка ва ўрочышчы Курапаты будуць названыя імёны ахвяраў сталінізму, расстраляных у Мінску ў 1920–1941 гадах. Такое рашэнне было прынята на чарговым пасяджэнні грамадскага аргкамітэта па правядзенні Года памяці ахвяраў таталітарызму ў Беларусі.**

Былы вязень ГУЛАГу, каардынатар грамадскага аргкамітэта Уладзімір Раманоўскі паведаміў, што пералік імёнаў бязвінных ахвяраў таталітарызму ўключаны ў цырымонію адкрыцця мемарыяльнага знаку ў гонар афіцэраў польскай арміі, забітых супрацоўнікамі НКУС на тэрыторыі Беларусі ў красавіку 1940 — чэрвені 1941 года. Паводле ягоных слоў, былыя вязні ГУЛАГу, прадстаўнікі грамадскасці і навукоўцы зачытаюць спіс, у які ўвойдуць ад 300 да 500 імёнаў расстраляных з іх дадзенымі (прозвішча, імя і імя па бацьку, дата нараджэння, нацыянальнасць, пасада і дата гібелі).

Даследчык тэмы сталінскіх рэпрэсій, кандыдат гістарычных навук Ігар Кузняцоў адзначыў, што на сённяшні дзень вядомыя імёны 5 772 ахвяраў палітрэпрэсій 1920–1941-х гадоў, расстраляных у Мінску і пазней рэабілітаваных. Паводле ягоных слоў, гэты пайменны спіс прадстаўлены ў пакуль яшчэ не надрукаванай кнізе «Расстраляныя ў Мінску» (аўтары Ігар Кузняцоў і культуролаг Вацлаў Арэшка), электронная версія якой вясной мінулага года была прэзентаваная ў Мінску. «На цырыноніі адкрыцця мемарыяльнага знаку грамадскі аргкамітэт мяркуе зачытаць толькі пачатак гэтага спісу, а ўвесь ён будзе агучаны на працягу бягучага года падчас розных мерапрыемстваў у межах правядзення Года памяці ахвяраў таталітарызму ў Беларусі», — сказаў гісторык.

Сябра рады грамадскага аб'яднання «Дыярыюш» Вацлаў Арэшка паведаміў, што «Расстраляныя ў Мінску» з'яўляецца часткай праекту аб'яднання «Беларускі індэкс рэпрэсаваных». Паводле ягоных слоў, аналіз вядомых сацыяльна-дэмаграфічных дадзеных на амаль 6 тысяч персаналіяў выдання сведчыць — больш за палову з іх з'яўляліся прадстаўнікамі беларускага сялянства і былі забітыя, у асноўным, у 1937–1938 гадах па абвінавачванні ў шпіянажы, антысавецкай агітацыі і прапагандзе, а таксама ва ўдзеле ў кантррэвалюцыйных арганізацыях. Арэшка нагадаў, што раней пабачылі свет першыя два тамы серыі: Ігар Кузняцоў «Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920–1950-я гады ў Заходняй Сібіры» (Мінск, 1998) і Рыгор Карпілаў «Індэкс ураджэнцаў Беларусі, расстраляных у Маскве і Ленінградзе ў 1920–1950-я гады» (Мінск, 2002). У два тамы ўвайшлі матэрыялы на 3 721 ураджэнца Беларусі, што былі рэпрэсаваныя органамі ВЧК-АДПУ-НКУС-НКДБ-МДБ, сказаў Арэшка.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# МІЛЬЯНЕРЫ Ў КРАІНЕ ЦУДАЎ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Часам трапляюцца навіны, ад якіх зрывае дах. Адна з іх дае падставы для ператварэння Беларусі ў сацыяльны рай, пра які так доўга марыў Аляксандр Лукашэнка. Ён неаднойчы казаў: «Дайце нам столькі ж грошай, колькі Грэцыі, і мы зробім тут цукерачку з краіны». Пакуль ён глядзіць на датацыі Грэцыі, грошы мірна ляжаць за ягонай спінай.**

У Беларусі пражывае 115 мультымільянераў, сукупная «заначка» якіх складае 13 мільярдаў долараў. Такія дадзеныя даследавання «World Ultra Wealth Report 2012–2013», якое правяла міжнародная кансалтынгавая кампанія «Wealth-X». Па колькасці мультымільянераў Беларусь заняла 27-е месца сярод 45 краін Еўропы. Першыя месцы занялі Германія (15 770 мультымільянераў), Вялікабрытанія (10 515) і Швейцарыя (5 595).

У параўнанні з папярэднім рэйтынгам 2011–2012 гадоў колькасць мультымільянераў у Беларусі павялічылася на пяць чалавек, а іх сукупны капітал скараціўся на 3,3%.

Вось бы гэтыя грошы ўкінуць у народную гаспадарку! Гэта ж колькі можна пабудаваць лядовых палацаў і накупіць самалётаў! Ды што там самалёты — не патрэбны нам крэдыт на атамную станцыю з Расіі — нашы мільянеры могуць скінуцца і пабудаваць яе самі, дый грошы яшчэ і застануцца! А калі ўлічыць, што ў Беларусі ўвесь ВУП складае ўсяго толькі 23 мільярда долараў? Гэта ж краіна можа некалькі месяцаў не працаваць!

Аляксандру Лукашэнку трэба азірнуцца і паглядзець на свой народ. Хто там такі багаты? Хто яшчэ не заплаціў 200% «камуналкі»? Чаму не скампенсавалі адмену бясплатнага праезду для студэнтаў у летні перыяд?

14 кастрычніка ў Літве адбыўся рэферэндум па пытанні будаўніцтва новай літоўскай АЭС. Падчас рэферэндуму прапанавалася адказаць на пытанне: «Ці падтрымліваеце вы будаўніцтва новай атамнай станцыі ў Літоўскай Рэспубліцы?» У рэферэндуме ўзялі ўдзел 51,5% насельніцтва, 62,7% з іх не падтрымалі ўзвядзенне новай АЭС.

У сувязі з гэтым беларуская «зялёныя» святкуюць перамогу. З іх меркавання, у Літве перамога сапернікаў АЭС у Літве з'яўляецца перамогай грамадзян усіх краін Усходняй Еўропы, бо ўпершыню за доўгі час у рэгіёне праведзена агульнанацыянальнае апытанне насельніцтва, вынікі якога наглядна ілюструюць, наколькі жыхарам рэгіёну, да якога таксама належыць Беларусь, непрымальная ідэя развіцця атамнай індустрыі.

Паводле «зялёных», рэферэндум у Літве фактычна пазбаўляе легітымнасці намер карпарацыі «Расатам» пабудаваць беларускую АЭС. «Наўрад ці жыхары суседняга з Літвой Астраўца настолькі ментальна адрозныя ад літоўцаў, каб стопрацэнтна падтрымліваць будаўніцтва пад бокам небяспечнага атамнага аб'екта», — лічаць «зялёныя», і ў сувязі з гэтым заклікаюць кіраўнікоў энергетычнага комплексу Беларусі «прызнаць маральную паразу» і «пайсці ў адпачынак», як гэта ўжо зрабіў іх калега, міністр энергетыкі Літвы Арвідас Секмокас.

Ага, так нашы міністры і сыдуць у адстаўку па выніках рэферэндуму ў суседняй краіне. Па-першае, у іх мільёнаў долараў няма, ім трэба працаваць. Па-другое, Беларусь — не Літва, і народ тут іншы. Вось прапануйце «зялёным» правесці рэферэндум па АЭС пад кіраўніцтвам і патранажам Лідзіі Міхайлаўны Ярмошынай. Што ў адказ «зялёныя» скажуць? Яны ведаюць, якія будуць вынікі? Яны ведаюць, і ўсе беларусы ведаюць — 76% «за», тут і рэферэндум непатрэбны. Толькі грошы марнаваць. Не чые-небудзь, а нашых мільянераў.

А вось пра што мільянерам сапраўды ў нашай краіне трэба было паклапаціцца, дык гэта пра ініцыятыву МУС. Тое, чаго так доўга чакалі і дамагаліся праваабаронцы, урэшце адбылося. Будынак Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) ГУУС Мінгарвыканкама, які размяшчаецца ў сталіцы па адрасе: 1-ы завулак Акрэсціна, 36, закрыты на рамонт.

Рамонт — планавы, праведзены вялікі аб'ём падрыхтоўчай працы, складзена праектна-каштарысная дакументацыя, рамонтныя работы ўжо пачаліся. Яны павінны быць выкананы на працягу прыкладна двух гадоў. У той жа час ЦІП працягвае функцыянаваць у памяшканні ізалятара часовага ўтрымання (ІЧУ) ГУУС Мінгарвыканкама ў суседнім будынку па адрасе: 1-ы завулак Акрэсціна, 36а. Дзейнічае і ІЧУ.

А пакуль з мільянерамі справа не высветленая, актуальнай застаецца тэма іншых «багаценькіх Бурацінаў». «Нобеля» Алесю Бяляцкаму не далі — далі Еўрасаюзу. Але ж днямі віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Бяляцкі стаў ганаровым грамадзянінам Парыжа. Рашэнне прынята гарадскім саветам паводле прапановы мэра французскай сталіцы, які ўхваліў ініцыятыву савета мэрыі 11-й акругі Парыжа.

Хай тады парыжане і скінуцца на рамонт бабруйскай калоніі №2, дзе знаходзіцца Бяляцкі. Вось гэта будзе рэальная дапамога палітвязню!

А пакуль не знайшлі мільянераў, і Парыж не кідаецца Беларусі дапамагаць, трэба разлічваць на свае сілы. Лукашэнка даручыў ураду «распачаць захады па замацаванні станоўчых тэндэнцый на валютным рынку». Такое распараджэнне ён зрабіў, прымаючы 15 кастрычніка з дакладам прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча.

«Наколькі гэта магчыма, я адсочваю сітуацыю на валютным рынку. Мяне, вядома, задавальняе, што там ужо адбыўся пералом пасля гэтых палітычных вэрхалаў і дзеянняў нашай так званай апазіцыі, якая запалохвала насельніцтва праз СМІ і інтэрнэт, спараджаючы нейкія дэвальвацыйныя чаканні», — заявіў Лукашэнка. «Ужо, можна сказаць, тыдзень сітуацыя пераломлена, і тры апошнія дні Нацыянальны банк валюту скупляў. Гэта добры сігнал на ўмацаванне беларускага рубля, гэта трэба рабіць», — дадаў ён.

Не ведаю, дзе і па чым Лукашэнка сочыць за валютным рынкам. Можа, у яго свой рынак і свае трэйдары на ім. Але на Беларускай валютна-фондавай біржы еўра скокнуў у сераду адразу на 200 рублёў — да 11 230, долар вырас на 80 рублёў — да 8 570 рублёў. І наўрад ці гэты «скачок» абумоўлены скупкай валюты Нацбанкам.



ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## АНАТОЛЬ КАЛІНІН

Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Калінін прапануе ад 2015 года ў Мінску практычна не будаваць камерцыйнае жыллё. «Я б прапанаваў, ад 2015 года ў Мінску практычна не будаваць камерцыйнае жыллё — толькі арэнднае і па дзяржзамове. У гарадах-спадарожніках таксама неабходна будаваць арэнднае жыллё. Гэта еўрапейская практыка: працоўныя рэсурсы прывязваюцца да месца працы і шукаюць там жыллё. А ў нас наадварот: жыллё вызначае прывязку працоўных рэсурсаў да тэрыторыі», — адзначыў віцэ-прэм'ер. Пры гэтым ён растлумачыў, што «неабходна камерцыйнае жыллё выносіць у гарады-спадарожнікі, а для Мінска стварыць максімальна камфортныя ўмовы для прыватных забудоўшчыкаў арэнднага жылля — гэта задача №1».

Анатоль Калінін мяркуе, што арэнднае жыллё павінна быць не толькі ў сталіцы і абласных цэнтрах, але і ў тых гарадах, дзе ёсць сур'ёзныя прамысловыя комплексы — Жодзіна, Жлобін, Астравец.

«Мы ж не пабудуем там столькі камерцыйнага жылля, а арэнднае — можам. У арэндным жыллі не месяц і не два жывуць, а доўгія гады, а то і ўсё жыццё. Мы зробім прывабным кошт пражывання там. Ён ужо цяпер у сярэднім у два разы ніжэй за рынкавы», — паведаміў ён.

Па словах намесніка віцэ-прэм'ера, у Беларусі ёсць і такая праблема: частка грамадзян, якія здаюць жыллё ў арэнду, не плацяць падаткі. «Ужо ёсць даручэнне падатковай службе зрабіць больш жорсткім падыходы. Калі чалавек атрымлівае даходы, значыць, ён павінен плаціць падаткі ў бюджэт», — падкрэсліў Анатоль Калінін.



## КАЦЯРЫНА ВАНДАР'ЕВА

Беларуская кікбаксёрка Кацярына «Барбі» Вандар'ева атрымала ўпэўненую перамогу па балах у часе сёмага міжнароднага турніру па кікбоксінгу W5 FIGHTER ў Маскве.

Неаднаразовая чэмпіёнка свету, Еўропы і Беларусі Кацярына Вандар'ева упэўнена перамагла ў супербаі да 54 кілаграмаў Міхаэль Банчакову са Славакіі. На бой «Барбі» выйшла як на подыум, толькі замест сукенкі на ёй былі ружовыя шорты і туфлі на высокім абцасе ў спалучэнні з баксёрскімі пальчаткамі. Міхаэла прыкметна саступала суперніцы ў тэхніцы. Вандар'ева прыгожа зрабіла сваю працу. У яе атрымлівалася практычна ўсё: хвосткія лоў-кікі, добрая расцяжка, плюс гуляла на руку добрае пачуццё дыстанцыі, піша eurosport.ru.

У кікбоксінг Кацярына Вандар'ева прыйшла пяць гадоў таму яшчэ будучы школьніцай. Дзяўчына хацела падцягнуць адзінаборствы, каб мець перавагу для паступлення ў Акадэмію МУС. У 2009 беларуска стала чэмпіёнкай свету, прычым з першай спробы. За гэты час Кацярына неаднаразова ўздымалася на спартыўны п'едэстал гонару.

## СЯРГЕЙ МАРТЫНАЎ



Спецыяльным прадстаўніком НК «Руснафта» у Беларусі прызначаны Сяргей Мартынаў, які раней займаў пасаду міністра замежных спраў рэспублікі, піша interfax.by.

У сферу адказнасці спецыяльнага прадстаўніка НК уваходзіць паглыбленне ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва кампаніі і рэспублікі, удзел у распрацоўцы і рэалізацыі перспектыўных нафтагазавых праектаў як у Беларусі, так і іншых краінах.

Сяргей Мартынаў, 1953 года нараджэння, з 1975 года працаваў на кіруючых пасадах МЗС Беларусі, у тым ліку — надзвычайным і паўнамоцным амбасадарам у ЗША; пастаянным прадстаўніком Беларусі пры Еўрапейскіх супольнасцях, арганізацыі Паўночнаатлантычнага дагавора. На пасадзе міністра замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў працаваў з 2003 па 2012 гады.

Прызначэнне Мартынава, як адзначае кампанія, «падкрэслівае стратэгічную цікавасць НК «Руснафта» да развіцця знешнеэканамічных сувязяў, пашырэння геаграфіі дзейнасці, узмацнення пазіцыі кампаніі на міжнародных нафтавых рынках».

Раней паведамлялася, што саўладальнік «Руснафта» Міхаіл Гуцарыеў стаў інвестарам распрацоўкі Старобінскага калійнага радовішча ў Беларусі. У кастрычніку 2011 года было зарэгістравана ТАА «Слаўкалій», якое будзе займацца рэалізацыяй праекта, што прадугледжвае будаўніцтва магутнасці па выпуску 1,8 мільёна тон хлорыстага калію ў год. Саінвестарам гэтага праекта можа выступіць Ашчадбанк.

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# СЛАВАЦКІ ШЛЯХ: ПЕРШЫЯ

Насуперак вядомаму выслоўю, урокі гісторыі так ці інакш кагосьці чамусьці вучаць. Толькі па-рознаму. Урок, што засвоіла і, на жаль, рэалізавала на практыцы пануючая вось ужо 20 гадоў на Беларусі кіроўная групоўка — гэта рэстаўрацыя былой, савецкага ўзору, таталітарнай палітычнай канструкцыі. Урокі ж краін, што паспяхова здзейснілі свой шлях да дэмакратыі, ёй патрэбны выключна дзеля засцярогі, для збудавання ахоўных «ліній Сталіна» і арганізацыі прэвентыўных рэпрэсіўных атак супраць апанентаў.

Для дэмакратычных сіл Беларусі параўнальнае асэнсаванне паспяховага досведу суседзяў, сваёй краіны ў рэгіянальным кантэксце, а праз яго — у агульнаеўрапейскім — жыццёвая неабходнасць. Каб больш дакладна зразумець, чым мы падобныя і чым адрозніваемся, у чым памыляліся, чаму пацярпелі паразу пры першай спробе дэмакратычных пераўтварэнняў пачатку 1990-х гадоў. Зразумець і ўрэшце здзейсніць прарыў з багны аўтарытарнага застою і напаўкаланіяльнай залежнасці на агульнацывілізацыйны шлях развіцця.

Найбольш актуальным для Беларусі рэдакцыя «Новага часу» палічыла вопыт новых краін Еўрасаюза. Ну, а паколькі нельга ахапіць неахопнае, на пачатку для азнаямлення мы абралі тры краіны — Славакію, Латвію і Польшчу.

У найноўшай гісторыі ёсць адна істотная перавага перад гісторыяй даўняй — гэта жывая гісторыя, пра якую можна распытаць саміх яе творцаў і ўдзельнікаў. Што і зрабілі журналісты «Новага часу» ў асабістых сустрэчах і інтэрв'ю з палітыкамі, грамадскімі актывістамі, аналітыкамі і калегамі-журналістамі. Акрамя таго, пацікавіліся, як успрымаюцца гэтыя гістарычныя перамены людзьмі, як жывецца ў Еўрасаюзе.

Аляксей КАРОЛЬ

**Дзве гадзіны самалётам з Мінска ў Вену плюс адна гадзіна (60 кіламетраў) аўтобусам з венскага аэрапорту да Браціславы — найхутчэйшы шлях да Славакіі. І ты, нават па першых уражаннях, апынаешся ў іншым свеце. Такім адрозным ад нашага. І такім падобным. Як у гістарычнай рэтраспектыве, так і сучасным вымярэнні.**

## Падабенства моваў

Як на побытавым, так і прафесійным узроўнях. Я распытваў дарогу, замаўляў ежу ў кафэ па-беларуску, мне адказвалі па-славацку, і мы разумелі адзін аднаго. Падчас інтэрв'ю я прамаўляў па-беларуску, мяне перакладалі па-славацку. Гэта ўспрымалася абсалютна натуральна. Дзіўным славакам было б, каб я — беларус з Беларусі — размаўляў па-руску. Моладзь па-руску мяне ніdзе не разумела. Мовай зносін мне скрозь, ад прадавачкі піццы да дэпутатаў у парламенце, прапаноўвалася англійская. На рускай мове мы вялі гаворку фрагментамі, бадай што толькі з асобнымі палітыкамі больш сталага пакалення, а таксама маладымі актывістамі грамадскіх арганізацый, прафесійна звязаных з краінамі былога Савецкага Саюза.

Недзе на чацвёртай-пятай сустрэчы са славацкім інтэлектуаламі, я са здзіўленнем заўважыў, што мы ўжо, ці не на палову, разумеліся без перакладу. Як паведаміў мне адзін з маіх славацкіх суразмоўцаў, на думку філолагаў, найбліжэй да славацкай з усіх славянскіх моваў ёсць беларуская.

## Непадабенства сталіц

Уразіла адметная архітэктурная прыгажосць Браціславы і яе агульная ўтульнасць. Найперш, старога места, старога горада, які захаваўся ў першасным выглядзе. Некалькі помнікаў архітэктуры былі зруйнаваныя за савецкім часам, калі будаваліся новы мост і хуткасная магістраль праз Дунай. У астатнім — замак на ўзвышшы, касцёлы, палацы і дамы, фантаны і плошча на ўзбярэжжы легендарнага Дуная — з любоўю адрэстаўраваны.

На дзіва, архітэктура гістарычнай Браціславы, вытрыманая, што натуральна, у агульным аўстра-венгерскім стылі, вызначаецца нейкім асабістым, менавіта славацкім, каларытам. У горадзе, і не толькі ў старым, безліч кафэ і рэстаранаў. Людзей — турыстаў і месцічаў — многа, але не занадта. Сталае насельніцтва Браціславы — крыху больш за паўмільёна чалавек, турыстычны паток яшчэ не набыў характар патопу, як, прыкладам, у Празе. Людзі ўсмешлівыя і добразычлівыя, твары адкрытыя, прыязныя. Без усялякага нават ценю ўжо адбітку савецкай замкнёнасці, постсавецкай заклапочанасці, што так уражвае замежнікаў на вуліцах Мінску. І так прыгнятае па вяртанні на радзіму са свабодных краін нас саміх, нават пасля кароткачасовай адсутнасці.

Адным надвячоркам, блукаючы па вузкіх вулачках старога горада, нечакана пачуў моцны прыгожы тэнар. Кіруючыся на голас, выйшаў на шырокі бульвар. Убачыў стацыянарную сцэнічную пляцоўку, на якой канцэрт давалі спевакі опернага тэатру. Вакол — бліз сцэны, на лавачках, за столікамі ў прылеглых кафэ — стаялі, сядзелі, гулялі, слухалі і не слухалі, елі, цягнулі піва, размаўлялі між сабой мноства людзей. Дзе-ніdзе заўважныя былі і купкі людзей з якімісьці плакатамі, з улёткамі, што раздавалі мінакам. «І амаль штодзённыя канцэрты ад рок-гуртоў да класікі, і палітычныя пікеты, — патлумачылі мне, — таксама звычайная справа». І толькі зрэдку мільгалі фігуры паліцыянтаў.

## Непадабенства ў коштах і заробках

Цэны на харчовыя прадукты ў крамах значна таннейшыя, чым у Мінску. І непараўнальна танней — у кафэ і рэстаранах. Пры непараўнальна лепшай якасці тавараў і страў. Звычайны абед у шараговым кафэ — 2–3 еўра. Вячэра ў рэстаране з куфлям піва — 5–9 еўра. Нават у культавым «Браціслаўскім бровары». Шмат блюд — з нацыянальнай кухні. Напрыклад, ну вельмі смачныя смажаны сыр ці галушкі. Кафэ і рэстараны ў абедзенны перапынак і вечарам запоўненыя. І далёка не толькі турыстамі. У тым жа «Браціслаўскім бровары», што месціцца наводдаль ад турыстычных сцежак, меню надрукавана толькі на славацкай мове без англійскага перакладу. Значыць, з разлікам выключна на сваіх.

Звычаем для браціслаўскіх жыхароў сталіся выхады ў рэстаран вечарам па пятніцах — сямейным, сяброўскім колам і, зразумела, закаханых. Публіка пераважна маладога і сярэдняга ўзросту. Ну, ці можа аспірант БДУ, падобна аспіранту браціслаўскага ўніверсітэта імя Каменскага, дазволіць сабе з сябрамі штопятніцу, а то і часцей, паход у рэстаран? Пра гэту завядзёнку, як і наогул пра матэрыяльнае становішча славацкіх студэнтаў і аспірантаў, мне распавёў мой перакладчык, мінчук Аляксей, які па адной з міжнародных праграм навучаецца ў аспірантуры па спецыяльнасці «паліталогія» (і адначасова выкладае курс для студэнтаў) ва ўзгаданым універсітэце.

Сярэдні заробак у Славакіі — каля 770–790. Ці задаволены людзі ўзроўнем свайго жыцця? Адказ на гэта пытанне, амаль без выключэння, гучаў адмоўна. І на тое хацелася б, і на гэта не хапае. Але ж адмоўнымі былі адказы і на пытанне, ці хацелі б яны вяртання ў перыяд прэм'ерства Уладзіміра Мечыяра. Гэта перыяд ад 1994 па 1998 год, азначаны відавочнай тэндэнцыяй адкату краіны да аўтарытарызму і разгулам карупцыі. Але пра гэту, асноўную, тэму маёй журналісцкай камандзіроўкі ў Браціславу — асобна.

Адмоўнымі былі і адказы на пытанне пра вяртанне ў савецкія часы. За рэдкім выключэннем — ад людзей паважнага веку і пэўнай ідэалагічнай скіраванасці. Як тое, што я пачуў на сустрэчы з сябрамі славацка-расійскага клуба. Але і іх незадавальненне сучаснымі парадкамі ў параўнанні з савецкімі, мела пад сабой хутчэй маральную, а не палітычную падаплёку — карупцыяй, алігархамі, разрывам у зарплаце, дыктатам тугога кашальку. Цікавая дэталь: сустрэча адбывалася ў рэстаране, уладальнікам якога быў адзін з прысутных чальцоў клуба. І другая: як высветлілася, ніхто з іх не хацеў адмаўляцца ад свабоды слова, сходаў, свабодных выбараў. І дэталь трэцяя: на гэтай сустрэчы прысутнічаў лідар клуба, палітык Ян Чарнагурскі — адзін з актывістаў посткамуністычных перамен у Славакіі.

Нават на вонкавае, непазбежна фрагментарнае маё назіранне, напрошвалася высnова, што славацкае грамадства, пры пэўнай сумятні і перапляценні супярэчлівых ідэалагем, што тыпова для пераходных перыядаў, ужо вольнае як ад сацыялістычнай настальгіі, так і ад тугі па моцнай руцэ. Што пацвердзілі ў размовах сацыёлагі і палітолагі.



Фота аўтара

Прэзідэнцкі палац. Рытуал змены варты



Канцэрт спевакоў опернага тэатра

## Падабенства гістарычных кодаў

Сюжэты з гісторыі Славакіі ў іх праекцыі на сучаснасць і магчымыя варыянты развіцця краіны на будучыню абавязкова ўзнікалі ў кожнай з маіх сустрэч (а іх было больш за паўтара дзясятка) са славацкімі палітычнымі і грамадскімі дзеячамі, экспертамі і журналістамі. Гэтак жа, як і пэўныя паралелі з гісторыяй Беларусі.

Заангажаванасць інтэлектуальнай нацыянальнай эліты гісторыяй сваёй краіны — з'ява натуральная. Гэта складнік яе прафесійнага менталітэту, яе ўплыву на фармаванне грамадскай самасвядомасці і працэс пабудовы суверэннай дзяржавы. Па-за гісторыяй — няма нацыянальнай эліты. Гістарычны нігілізм для яе, нароўні з моўным — што пацалунак смерці.

Славацкае грамадства ў цэлым здолела захаваць гістарычную памяць у значна лепшым стане, чым беларусы. Хаця таксама не без правалаў і скажэнняў. Ціск знешніх адмоўных уплываў на гэтай частцы кантынента аказаўся меншым. Ды і вытравіць памяць гісторыі са свядомасці народа, дзе гэтай памяцю насычаны сотні помнікаў архітэктуры, значна цяжэй.

Сённяшняя незалежная дэмакратычная дзяржава Славакія паўстала з дна акіяна сваёй гісторыі. Гэтак жа, як і Беларусь. І не праз выпадковы збег знешнепалітычных абставін, як гэта трактуе дастаткова папулярная версія, але ў выніку супярэчліва знітаваных у вяках падзей і высілкаў пакаленняў нацыянальных эліт і нацыянальных рухаў.

Да 1918 года, на працягу амаль дзевяці стагоддзяў Славакія была часткай Венгерскага каралеўства, якое ўваходзіла ў склад цэнтральнаеўрапейскай імперыі Габсбургаў, пераўтворанай у 1867 годзе ў Аўстра-Венгерскую манархію.

Венгерскі нацыянальны рух, які да гэтага спрыяў славацкаму нацыянальнаму адраджэнню, набыў статус афіцыйнай палітыкі ў выглядзе так званай мадзьярызацыі, скіраванай на асіміляцыю чэхаў і славакаў.

У выніку гэтай палітыкі вялікі слой славакаў, найперш адукаваных, перайшоў у так званыя мадзьяроны, якія свядома адмовіліся ад сваёй мовы і культуры на карысць больш «перадавой» культуры венгерскай. Гэта адчынялa перад імі ўсе магчымасці кар'ернага росту. Паводле перапісу, з 1880 па 1910 год колькасць славакаў на тэрыторыі сучаснай Славакіі скарацілася з 63 да 57 працэнтаў, а колькасць венграў павялічылася з 22 да 30 працэнтаў.

Тым не менш, славацкі нацыянальны рух вытрымаў не толькі імперскі ціск, але і напор венгерскага (мадзьярскага) нацыяналізму. Як і ў Беларусі, вытрымаў на абарончых плацдармах мовы, культуры, гісторыі. У інтэлігенцкіх асяродках, культурна-асветніцкіх гуртках, у створанай славацкай Нацыянальнай партыі.

# ЎРАЖАННІ

Як і беларускі нацыянальны рух, славацкі, з-за сваёй слабасці і немажлівасці атрымаць перамогу ўласнымі сіламі, вымушаны быў шукаць знешнюю падтрымку. Адны спадзяваліся на пагадненне з венграмі, другія арыентаваліся на чэхаў ці палякаў, былі і панславісты, русафілы.

Аднак славацкая нацыянальная эліта здолела не прапусціць свой гістарычны шанс, які ўзнік у 1918 годзе пасля развалу імперыі Габсбургаў. Разам з чэшскай нацыянальнай элітай яны дамовіліся, адэкватна ацанілі тагачасную сітуацыю, супольна выпрацавалі і рэалізавалі праект стварэння адзінай Чэхаславацкай дзяржавы, прызнанай краінамі Антанты. Паралельнасць і падабенства гэтага працэсу са стварэннем Беларускай Народнай Рэспублікі відавочныя. Але, на шчасце Славакіі і Чэхіі, з імі побач не было бальшавіцкай Расіі. Ім не пагражала агрэсія.

У перыяд першай Чэхаславацкай рэспублікі (1918–1938), праводзілася афіцыйная палітыка так званага чэхаславакізму, згодна з якой чэхі і славакі разглядаліся дзвюма галінамі аднаго народа. Падобная ідэя ўтрымлівалася і ў дактрыне «заходнерусізму» ў адносінах да беларусаў і ўкраінцаў, з той, аднак, розніцай, што чэхаславакізм прадстаўляў славакам поўную культурную аўтаномію. Славацкая мова мела афіцыйны статус, на ёй працавала ўся сістэма адукацыі, яна ўжывалася ва ўсіх без выключэння сферах жыццядзейнасці краіны.

Беларускі даследчык Яраслаў Шымаў параўноўвае гэту палітыку з палітыкай беларусізацыі другой паловы 1920-х гадоў у Беларусі. Розніца, аднак, у маштабе і ў часе — некалькі гадоў і два дзесяцігоддзі. А яшчэ і ў палітычнай сістэме — дэмакратычнай у Чэхаславакіі і таталітарнай у БССР у складзе СССР. У 1930-я гады творцы беларусізацыі і ўся нацыянальная інтэлігенцыя былі расстраляныя. У Славакіі ж у гэты перыяд якраз сфармавалася нацыянальна арыентаваная эліта, абудзілася самасвядомасць народа.

Упершыню ў выглядзе самастойнай дзяржавы на карце Еўропы Славакіі было наканавана з'явіцца ў трагічнай сітуацыі. Пасля Мюнхенскай дамовы (1938), дзеля канчатковай ліквідацыі Чэхаславакіі, Гітлер па сутнасці прымусіў лідара нацыяналістаў Й. Цісо абвясціць незалежнасць Славакіі, якая на справе была марыянеткай Берліна.

Аднак і ў аднаўленай пасля вайны, ужо камуністычнай, Чэхаславакіі магчымасцей для нацыянальнага развіцця, у прыватнасці, мовы і культуры, у Славакіі захавалася непараўнальна больш, чым у рэспубліках Савецкага Саюза. Пражскі цэнтралізм — не роўня імперскаму крамлёўскаму. У кіраўніцтва Чэхаславацкай камуністычнай партыі ўваходзілі як чэхі, гэтак і славакі. І менавіта гэта кіраўніцтва на чале са славакам Аляксандрам Дубчакам ініцыявала рэформы «пражскай вясны». Пасля разгрому ў 1968 годзе многія дысідэнты з Прагі, дзе перасслед быў значна больш жорсткі, знайшлі прытулак у Славакіі.



Помнік знакамітаму дацкаму казачніку Гансу Хрысціяну Андэрсену, які пэўны час жыў у Браціславе. Вечарамі яму не сумна: на бульвары і ў кафэ вірue жыццё

Супольным — чэхаславацкім — быў і дысідэнцкі рух. Гэтую тэму мы закранулі пры сустрэчы ў Браціславе з Марцінам Міланам Шымечкам (Martin Milan Šimečka) — дысідэнтам і сынам дысідэнта Мілана Шымечкі, адным з бліжэйшых сааратнікаў, а потым дарадцам прэзідэнта Вацлава Гавела.

Свой шлях да нацыянальнага вызвалення з імперскіх абцугоў да дзяржаўнай самастойнасці чэхі і славакі пачалі разам у 1918 годзе. Разам, праз мірную «аксамітавую рэвалюцыю» яны здзейснілі і сваё другое вызваленне ў 1989-м. І па дамоўленасці спакойна і мірна разышліся ў студзені 1993 года. На карце Еўропы з'явіліся суверэнная Чэхія і суверэнная Славакія.

**Працяг тэмы ў наступным нумары**

---

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**

# ЦІ ВЫПУСЦЯЦЬ АЛЯКСАНДРА КРУТОГА?

**У канцы кастрычніка — пачатку лістапада мусіць адбыцца суд над Аляксандрам Крутым, які ўжо больш за паўгода знаходзіцца на прымусовым лекаванні ў «Навінках». 25 верасня медычная камісія вынесла вырак па дыягназу бацькі Інэсы Крутой, пацярпелай падчас выбуху ў мінскім метро ў красавіку 2011 года. Дакументы накіраваныя ў суд. Ці ёсць у незвычайнага пацыента шанцы апынуцца на волі па выраку суда? Журналіст НЧ Алена Барэль сустрэлася з Аляксандрам Крутым у сценах псіхдыспансера.**



Фота аўтара

Пацыент Круты трапіў у «Навінкі» пасля сямі месяцаў знаходжання за кратамі, калі суд прызнаў бацьку пацярпелай ад так званага тэракта дзяўчыны псіхічна хворым.

На думку Аляксандра, ягонае прымусовае лекаванне будзе працягвацца да таго часу, пакуль зверху не прымуць вырак аб вызваленні. Такім чынам, за адно злачынства могуць судзіць не адзін-два разы, а, напрыклад, дзесяць, разглядаючы справу з перапынкамі ў паўгода.

— Па беларускаму заканадаўству, медыцынскае пераасведчанне павінна праводзіцца кожныя паўгода. А я ўжо 10,5 месяца знаходжуся пад назіраннем псіхіятраў, і вось толькі 25 верасня адбылася першая медычная камісія! На ёй мяне спыталі: «Ці будзеце яшчэ так рабіць?», маючы на ўвазе слоік з мачой, выліты на галаву галоўнага лекара 32-й паліклінікі з-за сітуацыі з маёй дачкой. Адказаў: «Не». Лекары пасмяяліся — вось і ўся камісія...

***— Але чаму вас тут трымаюць?***

— Я сюды трапіў з-за суда па выбуху ў метро. Мяне арыштавалі 20 верасня мінулага года, якраз пасля чарговага пасяджэння суда па гэтай справе. Мне не хапіла літаральна некалькі дзён, каб дачакацца выступу ўсіх сведак і выпатрабаваць тыя доказы, якія б паказалі, што ні Канавалаў, ні Кавалёў аніякага дачынення да выбуху не маюць. Калі не знішчаны пэўныя старонкі з матэрыялаў крымінальнай справы, ёсць дакладны доказ таго, што хлопцы не маглі закласці бомбу ў метро. Таму, на падставе ўсяго гэтага, маё з'яўленне на волі будзе камусьці вельмі не выгадна. Я валодаю доказамі невінаватасці асуджаных і расстраляных хлопцаў, бо шмат часу працаваў з дакументамі па гэтай справе. Я амаль непажаданы сведка.

***— Які ў вас зараз дыягназ?***

— Мне не кажуць. Дыягназ, з якім трапляюць пацыенты ў псіхдыспансер, ім не гавораць, як і вынікі медычнай камісіі. Між тым, калі я спытаўся, ці дадуць мне групу інваліднасці, адказалі, што з «такім дыягназам» групу ніхто не дасць...

Але яшчэ дагэтуль, пасля майго звароту ў ПРА ААН па выніках прэзідэнцкіх выбараў 2006 года, псіхіятры заключылі, што я ўжо 15–20 гадоў пакутую на паранаідальную шызафрэнію. Менавіта пасля згаданай вышэй паперы ў 2007 годзе мне была прызначана строгая ізаляцыя, замест суда я правёў 51 суткі ў турэмным склепе для пажыццёва зняволеных. Начальнік турмы Юрый Конан на 47-я ці 48-я суткі прыйшоў да мяне ў штрафны ізалятар і сказаў: «А хто вас прызнаў вар'ятам, калі вы — здаровы чалавек?» Між тым, у гэтую камеру можна было трапіць толькі адным шляхам: за парушэнне строгага рэжыму ўтрымання на спецзоне для пажыццёва зняволеных. Чаму ж туды трапіў я?.. На суд, які нарэшце адбыўся, мяне не пусцілі.

***— Чым вас лечаць?***

— Тры разы на дзень, на працягу ўсяго часу майго ўтрымання тут, мне даюць таблеткі «граміцын». І больш нічога, ніякіх лекаў ці працэдур. Між тым, граміцын прызначаюць звычайным школьнікам — для паляпшэння ўвагі і супраць стрэсаў.

***— Калі дакладна адбудзецца суд?***

— Мне і пра гэтае не паведамяць. Суды над псіхічна хворымі грамадзянамі ў нашай краіне праходзяць у зачыненым рэжыме. Гэта не Нарвегія, дзе нават Брэйвік, які забіў больш за 70 чалавек, прысутнічаў на судзе і трымаў слова... Але не менш, чым за 5 сутак да пасяджэння суда пра гэта павінны паведаміць маім сваякам. Дакументы, якія пайшлі ў суд, згодна заканадаўству, павінны разглядаць не даўжэй, чым паўтара месяца. Таму суд мусіць адбыцца ў канцы кастрычніка ці напачатку лістапада. Калі суд вырашыць, што выпускаць рана, мяне будуць працягваць трымаць у Навінках яшчэ паўгода. Потым — зноў медычная камісія, новы суд і новы вырак. Я магу тут знаходзіцца бясконца. Заключэнне лекараў будзе — «здаровы», а суд, нягледзячы на гэта, усё адно пакіне ў «псіхушцы». Бо ў Крымінальна-працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь існуе «ўнутранае перакананне суддзі». Як суддзя вырашыць, так і будзе.

***— На вашу думку, якім будзе вырак суда?***

— Можна чакаць усяго, што заўгодна. Нават па інкрымінаванаму мне артыкулу 339, частцы 1 (хуліганства) людзі не сядзелі больш за паўгады, гэта максімальны тэрмін. Я адсядзеў у турме сем месяцаў, якія нават не ўвайшлі ў тэрмін знаходжання ў лякарні для асобаў, прызнаных псіхічна хворымі. Плюс — больш, чым паўгода знаходжання ў Навінках... Мяне ізалявалі з красавіка 2011 года.

***— Вы верыце, што зараз вас выпусцяць на волю?***

— Я не хачу пра гэта думаць. Пакаралі не мяне. Пакаралі маю сям'ю — жонку-інваліда і дачку, якая таксама ператварылася ў інваліда пасля выбуху ў метро. Яны ж бездапаможныя зусім, а я замкнёны ў лякарні... Дачцэ прааперавалі вока, жалезны аскепак з яе галавы выдалілі разам з пашкоджаным крышталікам падчас аперацыі ўлетку. Але ёй неабходна зрабіць МРТ (магнітна-рэзанансную тамаграфію) і даследаваць галаўны мозг, які атрымаў траўму падчас выбуху. Таму зараз мяне турбуе не маё становішча, а лёс маёй сям'і. Я ўпэўнены, што ў маёй дачкі Інэсы пасля трагедыі ў метро — траўма галавы, якую за паўтары гады ніхто не дыягнаставаў.

***— Ці чакаеце вы дапамогі ў якасці адваката ад праваабарончых арганізацый, напрыклад ПЦ «Вясна»? Хто будзе абараняць вас на судзе?***

— Не. Наадварот, я прашу не дапамагаць мне адвакатам, бо гэта можа абярнуцца мядзведжай паслугай, як было ў мінулы раз. «Вясна», якая жадала давесці справу да міжнароднага суда, даслала на мой суд свайго адваката, але з-за касацыйных скаргаў я правёў за кратамі лішніх чатыры месяцы — з-за папяровай цяганіны. Ніякага плёну гэта не прынесла. Калі б не ўдзел адваката, мяне б этапавалі з турмы ў «Навінкі» на чатыры месяцы раней. Я б вельмі хацеў абараняць сябе сам, але ў нашай краіне чалавек, як бы абсурдна гэтае ні было, не мае права прысутнічаць на судзе, на якім яго ж судзяць...

А пакуль у чаканні суда вязень «Навінак» дапамагае на кухні, зранку і да вечара заняты ці працай, ці самаадукацыяй. Вывучае арабскую і англійскую мовы, чытае «Канон медычнай навукі» Авіцэны. Прыемна глытнуць і свежага паветра — раз на дзень пацыентаў выводзяць на шпацыр. Самае галоўнае тут, кажа Круты, — трымаць сябе ў тонусе, нельга паслабляцца. Як бы ні душыла становішча, цяжкія ўмовы існавання можна вытрымаць толькі такім чынам.

Медперсанал ставіцца да незвычайнага пацыента як да ўсіх. Зранку і да позняга вечара Аляксандр заняты нейкімі працамі. Палату, дзе ён ляжыць, лічыць лепшай у аддзяленні. Акрамя яго, там знаходзяцца яшчэ тры чалавекі: адзін — на прымусовым лекаванні, два хлопцы — па накіраванні ваенкамату.

Па словах Аляксандра, трапіць сюды вельмі лёгка. І для гэтага зусім неабавязкова быць вар'ятам.

— Неяк прывезлі мужчыну з Крупак, 71 год, з абадранымі рукамі, у кайданках. 20 гадоў адпрацаваў дырэктарам школы, гісторык па адукацыі. Напісаў зварот да міністра аховы здароўя, пасля чаго і быў дастаўлены ў «Навінкі»... Але яму пашанцавала: выпусцілі на наступны дзень, бо дачка падключыла ўсе сувязі.

## 26 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**12.10** Рэальны свет.
**13.20** Мультфільм «Бобік у гасцях у Барбоса».
**13.30** Заўтра -гэта мы!
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 00.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**22.20** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**23.30** Прэм'ера. Серыял «Майстры жахаў».
**01.15** Дзень спорту.
**01.30** Рэальны свет.



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Танна і злосна».
**12.05** Прэм'ера. «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**00.10** «Вячэрні Ургант».
**01.05** «Без сведак».
**01.40** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** Баявік «Нападзенне на 13-ы ўчастак». ЗША-Францыя, 2004 г.



**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Фільм «Адкрыйце, паліцыя! - 2». Францыя, 1989 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.05** «Перамажы Покерстарз».
**00.55** «Адмысловы праект».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Час футболу.
**11.00** Страсці па культуры.
**11.40** Спартовая драма «Выклік» («Беларусьфільм»).
**13.20** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**15.30** Музычная камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.30** Крымінальны баявік «Абвінавачаныя» (ЗША - Канада).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Лорд. Сабака-паліцыянт».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Пятая група крыві».
**22.20** Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** Фільм «Карусель» (2010 г.).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Прэм'ера. Тэлесерыял «Чужы твар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** Прэм'ера. «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «На сонечным баку вуліцы».
**22.25** Навіны - Беларусь.
**22.35** Прэм'ера. Фільм «Вясковая гісторыя» (2012 г.).



**00.00** Покер: Покер.
**01.00** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**09.30** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**11.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Бельгія - Фінал.
**12.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры серыі Гран-пры па фігурным катанні Skate America.
**13.00** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**17.00** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**23.00** Боўлінг: ЗША.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў. Інфармацыйная праграма.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.20** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дакументальны фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Хітрыкі», мастацкі фільм, 2007 г., Польшча.
**23.15** Аб'ектыў.
**23.45** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**00.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 27 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА



**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Мультфільм.
**12.30** Камедыя «Ты - мне, я - табе» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.35** Прыгодніцкая камедыя «Зеўс і Раксана» (ЗША).
**17.30** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Камедыя «Бландынка і бландынка» (Канада).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фільм-катастрофа «Зямное ядро» (ЗША-Вялікабрытанія).
**00.05** Хакей для ўсіх.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**01.50** Перазагрузка.



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.20** «Разумніцы і разумнікі».
**12.05** Тэорыя неверагоднасці. «.
**12.55** Фільм «Сватаўство гусара».
**14.15** Прэм'ера. «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.50** Прэм'ера. «Муслім Магамаеў. «Ты мая мелодыя».
**19.45** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Драма «Хаціка: самы верны сябар».
**22.55** «Што? Дзе? Калі?».
**00.10** «Чырвоная зорка».
**01.35** «Біяполе. Нябачная сіла».



**06.15** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.05** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.15** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.55** «Чыстая праца».
**09.40** «Іншая краіна».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.10** Фільм «Адкрыйце, паліцыя! - 2». Францыя, 1989 г.
**13.10** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Раманс пра закаханых». СССР, 1974 г. 1-я серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «Жаночыя слёзы». Украіна, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Здані Гойі». ЗША-Іспанія, 2006 г.
**22.20** «Гаспадыня тайгі». Серыял.



**06.40** Дабравест.
**07.05** Музычная камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**08.40** Фантастычная камедыя «Тыя, што спыняюць час» (ЗША).
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Альбарутэнія.
**11.10** Наперад у мінулае.
**11.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Беларуская кухня.
**14.05** Трагікамедыя «Кур'ер» (СССР).
**15.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.00** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.50** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**23.20** Фантастычная камедыя «Каштоўнасці сямейкі Адамс» (ЗША).
**01.05** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.30** Фільм «Карусель» (2010 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Уся Расія».
**12.10** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.40** «Дзе золата «Чорнага прынца»?».
**16.40** «Улада факту».
**17.30** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** «Танцы з Зоркамі». Сезон-2012.
**00.00** Фільм «Алібі надзея, алібі каханне» (2012 г.).



**07.00** Фільм «Вясковая гісторыя» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.15** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Бярмудскі трыкутнік. Логава д'ябла».
**15.15** Фільм «Жонка сышла».
**17.05** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Прэм'ера. «Танцы з Зоркамі». Сезон-2012.
**23.45** Фільм «Шлях назад» (2010 г.).



**00.00** Самыя моцныя людзі планеты.
**00.30** Самыя моцныя людзі планеты.
**01.00** Аўта і Матаспорт.
**01.15** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. - Агляд сезону.
**01.45** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**09.30** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**10.15** Зімовыя віды спорту.
**10.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**11.15** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул - Кругавая сістэма.
**13.00** Зімовыя віды спорту.
**13.15** Горныя лыжы: Кубак свету. – Жанчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**13.45** Горныя лыжы: Кубак свету. - Слаламгігант. Жанчыны. 2-я спроба.
**14.45** Тэніс: Вынікoвы чэмпіянат WTA. Стамбул.
**19.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады - Кароткая праграма Пары.
**20.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады - Спартовыя пары Адвольная праграма.
**21.30** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады - Адвольная праграма Жанчыны.
**23.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады.
**23.45** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады - Адвольны танец.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.20** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.30** Студыя «Белсат».
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.45** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Гэй, слон!», «Таямніца шыфру Марабу».
**12.10** «Школа на санцапёку», серыял: 20 серыя.
**12.40** «Таямніца Сагалі», серыял: 1 серыя.
**13.00** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 7 серыя.
**13.50** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Вырашальны ўдар».
**14.40** «Праведнікі», тэлесерыял: 6 серыя.
**15.25** «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя.
**16.25** «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**18.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**18.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**19.00** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 4 серыя, «Аргентына: рэвалюцыя рондаляў і патэльняў».
**19.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.10** Зона «Свабоды».
**20.45** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**23.40** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 8 серыя.
**00.25** Аб'ектыў.
**00.40** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 28 КАСТРЫЧНІКА, НАДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.30** Камедыя «Ты - мне, я - табе» (СССР).
**08.00** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**11.00** Тэлефільм АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**11.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.10** «Зоркі «Кінашока».
**12.40** Культурныя людзі +.
**13.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.35** Рамантычная камедыя «Каханне і іншыя непрыемнасці» (ЗША).
**17.25** Заўтра -гэта мы!
**17.55** Каробка перадач.
**18.25** Трылер «Прамая і відавочная пагроза» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналіцкае расследаванне.
**22.30** Камедыйная меладрама «Флірт са зверам» (ЗША).
**00.20** «Гісторыя майго кахання». Канцэрт.
**01.50** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** «Прыгоды Васі Куралесава». Мультфільм.
**12.55** Шматсерыйны фільм «Участак».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Народная медыцына».
**18.20** «Ні хвіліны супакою…». Канцэрт.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.15** Прэм'ера. «Насця». Вячэрняе шоў.
**00.15** Фільм «Невыносная жорсткасць».

### СТВ

**06.15** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.05** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.15** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Жыць будзеце».
**09.55** «100 адсоткаў».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.10** Фільм «Здані Гойі». ЗША-Іспанія, 2006 г.
**13.20** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Раманс пра закаханых». СССР, 1974 г. 2-я серыя.
**15.10** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**18.30** «Гарады, што спяваюць». Выніковы дзённік.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Саламон Кейн». Францыя-Чэхія-Вялікабрытанія, 2009 г.
**22.35** «Пякельная кухня».
**00.00** Фільм «Мой сын для мяне». Францыя-Бельгія, 2006 г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**08.00** Таямніца душы.
**08.25** Трагікамедыя «Кур'ер» (СССР).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Альбарутэнія.
**10.45** Вышэй за дах.
**11.20** Школа рамонту.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Пра мастацтва.
**14.05** Лірычная камедыя «Дзеці Дон-Кіхота» (СССР).
**15.50** «Пад знакам савы». Дакументальны фільм (Беларусь).
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Чэлсі - Манчэстэр Юнайтэд.
**23.05** Крымінальная драма «Нармалёвае жыццё» (ЗША).
**00.55** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** Фільм «Кропля святла» (2009 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Край бурштынавай ліхаманкі».
**15.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** Фільм «Калі б я цябе кахаў» (2010 г.).
**17.55** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм.
**23.20** 1/4 фіналу Першай лігі КВЗ.

### НТВ

**07.00** Фільм «Праязны білет» (2011 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** Прэм'ера. «Мы родам з мультыкаў».
**15.20** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.05** Фільм «Гувернантка». 2009 г.
**18.00** Прэм'ера. «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Прэм'ера. Фільм «Павуцінка бабінага лета» (2011 г.).
**23.20** «Нядзельны вечар».

### EUROSPORT

**01.00** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.
**02.00** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул.
**10.30** Зімовыя віды спорту.
**10.45** Горныя лыжы: Кубак свету. - Слаламгігант. Жанчыны. 2-я спроба.
**11.30** Горныя лыжы: Кубак свету. – Мужчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**12.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 1.
**14.00** Горныя лыжы: Кубак свету. – Мужчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**14.45** Горныя лыжы: Кубак свету. - Слаламгігант. Мужчыны. 2-я спроба.
**15.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 1.
**17.30** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул.
**18.00** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул – Фінал.
**20.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады - Адвольная праграма. Мужчыны.
**20.30** Фігурнае катанне: Гран-Пры Канады - Паказальны выступ.
**21.45** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 1.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**07.45** «Школа на санцапёку», серыял: 20 серыя.
**08.10** «Таямніца Сагалі», серыял: 1 серыя.
**08.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**09.05** Зона «Свабоды».
**09.35** Еўропа сёння.
**10.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**10.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.45** Сальда (эканамічная праграма).
**11.00** Рэпартэр.
**11.25** Навігатар.
**11.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.05** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**12.35** «Школа на санцапёку», серыял: 21 серыя.
**13.00** «Таямніца Сагалі», серыял: 2 серыя.
**13.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.35** «Глыбокая вада», серыял: 7 серыя.
**14.15** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 4 серыя, «Аргентына: рэвалюцыя рондаляў і патэльняў».
**15.10** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.20** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.00** «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**17.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.20** Два на два (тэледыскусія).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**18.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца Цыцэрона».
**19.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**20.00** Дакументальная гадзіна: «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**21.00** ПраСвет.
**21.20** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.50** Форум (ток-шоу).
**22.40** Фільматэка майстроў: «Грамадзянін Гавэл», 2008 г., Чэхія.
**00.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.05** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**01.20** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

З НАГОДЫ

# НОБЕЛЬ СКАМПРАМЕТАВАНЫ

Алег НОВІКАЎ

**Нядаўняе рашэнне нобелеўскага камітэту — прысудзіць прэмію міру Еўрасаюзу — адзін з самых вялікіх удараў па прэстыжу прэміі ў гісторыі.**

Рэакцыяй сусветнага грамадства на выбар было нават не здзіўленне або шок. Хутчэй, каментатары смяюцца. Нямецкая «Suddeutsche Zeitun» жартуе з таго, што Еўрасаюз не мае агульнай вызначанай знешнепалітычнай лініі, аднак стаў кантынентальным міратворцам. Мадрыдская «El Pais» весяліцца з таго, што прыз чыноўнікам Еўрасаюза будзе ўручацца ў Нарвегіі, якая прынцыпова не жадае быць сябрам ЕС. А французская «La Tribune» іранічна прагназуе, што нобелеўская ўзнагарода цалкам пахавае ЕС. Еўрачыноўнікі замест выратавання Еўразоны пачнуць святкаваць узнагароджанне і згубяць кантроль над сітуацыяй.

З іншага боку, што тут дзіўнага? Нобелеўская прэмія — гэта бясконцая серыя скандалаў: палітычных і карупцыйных, прычым ва ўсіх намінацыях. Часткова ў гэтым вінаваты сам Альфрэд Нобель. Ну нашто яму было пасля заснавання прэміі публічна выказвацца пра свае густы ў галіне літаратуры? Словы галоўнага спонсара пра тое, што ён паважае «прыгожую прозу», сябры Нобелеўскі камітэта ўспрынялі як прамы загад. Усе шансы атрымаць прэмію аўтаматычна згубілі яшчэ жывыя на той час класікі — Леў Талстой і Марк Твэн, якія крытыкавалі тагачасныя парадкі або высмейвалі лад жыцця.

Трошкі пазней камітэт адмовіўся ад такога вузкага погляду на літаратурны працэс, аднак толькі для таго, каб узнагароджваць шведскіх аўтараў, шмат з якіх абсалютна не вядомыя нават у скандынаўскіх краінах.

Вялікая роля пры выбары лаўрэатаў надавалася палітычнай кан'юнктуры. Швецыя заўсёды намагалася застацца ў баку ад кантынентальных канфліктаў. З улікам аўтарытэту Нобелеўскай прэміі, рашэнне Нобелеўскага камітэта хутка пачало разглядацца як афіцыйная пазіцыя Стакгольма.



Славуты раман Карла Чапека «Вайна з саламандрамі» быў забракаваны акадэмікамі, паколькі ў ім пабачылі элементы антынямецкай правакацыі. У нашы часы палітычна некарэктным аўтарам адмаўляюць больш элегантна. Так, па прычынах неактуальнасці не трапілі ў спіс намінантаў «Сатанінскія вершы» Салмана Рушдзі. Відавочна, Швецыя не жадала сапсаваць адносіны з Іранам.

У 1976 годзе ўзнагарода дасталася ліберальнаму эканамісту Мілтану Фрыдману за яго працы ў галіне манетарнага аналізу. Нобелеўскі лаўрэат на момант уручэння яму прэміі працаваў асабістым дарадцам дыктатара Пінaчэта, і больш таго, нават выязджаў у Чылі, дзе тады ва ўсю ішоў пераслед апазіцыі. Прэмію за путч у Чылі ўскосна атрымаў у 1973 годзе і дзяржсакратар ЗША Генры Кісінджэр. Менавіта ён быў стваральнікам плану «Аперацыя Кондар» па барацьбе з камуністычнымі рухамі ў Паўднёвай Амерыцы. Факт атрымання прэміі міру не перашкодзіў Кісінджэру падтрымаць план Турцыі па інтэрвенцыі на Кіпр з мэтай сепарацыі востраву.

З лёгкай рукі Нобеля, які вельмі цікавіўся фізікай, 77 працэнтаў Нобелеўскіх прэмій у гісторыі выдадзеныя на адкрыцці ў фізіцы. Затое за бортам засталіся іншыя галіны ведаў, накшталт матэматыкі. Даходзіла да таго, што некаторых матэматыкаў адмаўляліся рэгістраваць у якасці намінантаў са спасылкай на нейкія пункты статуту, накшталт пратэрмінаванай даты падачы.

Пазней матэматыкаў прызналі вартымі таго, каб выдаваць ім прэміі. А вось праблему карупцыі сябры камітэту дасюль, здаецца, не вырашылі.

Першы гучны скандал звязаны з прозвішчам славутага расійскага хіміка Дзмітрыя Мендзялеева. Упершыню яго табліца хімічных элементаў была прадстаўлена публіцы ў 1869 годзе. У 1906-м Мендзялееў памёр. Ён так не атрымаў прэмію, хаця лічыўся яўным фаварытам. Усё з-за таго, што завёў сабе персанальнага ворага ў асобе нейкага шведа, сябра камітэту. Апошні катэгарычна адмовіўся галасаваць за Мендзялеева. Менавіта гэтага голасу не хапіла вучонаму, каб стаць лаўрэатам.

Пасля такіх гісторый было шмат. Хіба не самы вядомы ахвяра незразумелых схемаў нобелеўскага камітэту — славуты Томас Эдысан, які прыдумаў фанограф і пабудаваў першую электрастанцыю. Усе меркавалі, што прэмія ў яго ў кішэні, аднак нечакана ў акадэмікаў прабудзіліся патрыятычныя сентыменты. Лаўрэатам стаў швед Нільс Дален за… «агульныя заслугі перад чалавецтвам». Што гэта такое, цяжка было зразумець нават у тыя часы. Самае вялікае адкрыццё Далена заключалася ў канструкцыі газавых рэгулятараў для асвятлення карабельных лямпаў.

Канфліктаваць з нобелеўскімі лаўрэатамі небяспечна. У 2008 годзе Нобеля адхапіла група вучоных за эксперыменты пад кіраўніцтвам Асамы Шымамуры у галіне кланіравання. Аднак пры гэтым усе спецыялісты ведалі, што раней за Шымамуру такія вопыты праводзіў Дуглас Прашэр. Самае смешнае, што факт прызнавалі нават лаўрэаты. Прашэр паспрабаваў пратэставаць — і паплаціўся. Яго пазбавілі асабістай лабараторыі. Апошняй вакансіяй, якую ён займаў, была праца вадзіцеля аўтобуса ў штаце Каларада.

Аднак самыя брутальныя скандалы тычацца прэміі міру. «Аглушальнай сенсацыяй» назвала газета «The New York Times» уручэнне Нобеля за мір Бараку Абаме ў 2009 годзе «за яго велізарныя высілкі, накіраваныя на паляпшэнне супрацоўніцтва паміж народамі». Парадокс у тым, што намінацыя кандыдатаў на прэмію адбывалася ў студзені 2008-га, калі Абама займаў пасаду прэзідэнта прыкладна дзесяць дзён. Нават Абаме было вельмі няўтульна з-за той нечаканай узнагароды.

**Славуты раман Карла Чапека «Вайна з саламандрамі» быў забракаваны акадэмікамі, паколькі ў ім пабачылі элементы антынямецкай правакацыі**



Адзіная форма пакарання акадэмікаў за іх яўныя праколы — праўда пра лаўрэатаў прэміі міру. Напрыклад, у 2004-м віцэ-прэзідэнт Альберт Гор стаў лаўрэатам за тое, што ў сваіх працах прыцягнуў увагу да пагрозы змены клімату. Прыкол у тым, што сам Альберт у сваіх працах толькі ўскосна згадваў пра выклікі глабальнага пацяплення.

Або Лю Сяабо — кітайскі дысідэнт, які быў узнагароджаны ў 2007 годзе. Пасля высветлілася, што ў сваіх артыкулах аматар міру падтрымліваў усе вайсковыя аперацыі ЗША, уключаючы вельмі супярэчлівыя інтэрвенцыі ў В'етнам або ў Карэю. Ён быў нават не супраць, каб яго радзіма таксама стала аб'ектам атакі янкі.

Праўда, гэта дробязь у параўнанні з былым дзяржсакратаром ЗША Кардэл Хол, якога ўзнагародзілі ў 1945-м. Хол у 1939 годзе дабіўся, каб Рузвельт не пускаў у парты ЗША карабель з нямецкімі яўрэямі, якія збеглі ад Гітлера. У выніку судна было вымушана вярнуцца ў порт прыпіскі ў Гамбург, адкуль яго пасажыраў адправілі ў канцлагеры.

Таксама былыя лаўрэаты часта робяць такое, што кампраметуе нобелеўскую структуру. Накшталт лаўрэата прэміі 2004 года — кенійскай экалагічнай актывісткі Вангары Маатаі. Не паспела яна атрымаць прэмію, як парадавала ўвесь свет забаўным адкрыццём — па яе словах, СНІД прыдумалі заходнія вучоныя, каб з дапамогай вірусу знішчыць усіх афрыканцаў.

Ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць адзін пазітыў. Як правіла, кожная памылка Нобелеўскага камітэта выклікае часта не толькі шквал крытыкі, аднак і канкрэтныя спробы стварэння альтэрнатыўных прэмій.

Праўда, магчыма, гэтым разам абыдзецца без альтэрнатыўных Нобелей. Імідж яго дзецішча яшчэ можна выратаваць. Так мяркуюць некаторыя сябры Еўрапарламента, якія заклікаюць кіраўніцтва ЕС перавесці мільён на падтрымку грамадзянская супольнасці Беларусі. Гэта, на думку шмат каго, хоць неяк захавае прэстыж і завяшчанне Альфрэда Нобеля.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

За адказаў Лукашэнкі відавочна, што вялікія надзеі ён ускладае на Мытны саюз і Адзіную эканамічную прастору. І гэта зразумела, улічваючы, што Казахстан з Расіяй з'яўляюцца найбуйнейшымі здабытчыкамі нафты і газу. У той жа час фарсіраваць інтэграцыйныя працэсы ў Мінску не маюць намеру. Але калі, напрыклад, з ініцыятывай стварэння адзінага парламента будуць выступаць у Астане, то беларусы гэту ініцыятыву падтрымаюць.

**Lenty.Ru (Расія)**

Дзеянні Лукашэнкі назіральнікі між сабой у адзін голас назвалі «*беспределом*», але публічна выказаліся больш асцярожна — «нацыяналізацыя». З такой нацыяналізацыяй улада не зможа дамагчыся зацверджаных паказчыкаў па прыцягненні замежных інвестыцый на наступны год. У такіх умовах інвестары ў Беларусь не прыйдуць. Колькасць інвестыцый і так вельмі малая. Улада зрабіла стаўку на прыцягненне 4,5 мільярда долараў замежных інвестыцый у наступным годзе — іх не будзе. Але ў Лукашэнкі іншае меркаванне на гэты конт.

**«Рэспубліка» ( Казахстан)**

Праблема ў тым, што, калі б Лукашэнка пад прыцэлам відэакамер прыбыў бы разграбаць эканамічныя праблемы дзе-небудзь у 1995–1998 гадах, тое гэта неяк было б зразумела — «спадчына праклятага царызму» ў асобах «ворагаў беларускага народа» Кебіча і Шушкевіча. Аднак заяўляць, што «час даўно прызнаць памылковасць таго, што было зроблена ў 1990-я гады… на васямнаццатым (!) годзе кіравання пажыццёвага прэзідэнта, азначае ні што іншае, як тое, што Лукашэнка заняты чым заўгодна, акрамя кіравання дзяржавай.

**«Политобзор» (Расія)**

Найлепш адлюстроўвае бачанне свету Лукашэнкі яго сяброўства з Чавесам — лідарам, які кідае выклік Злучаным Штатам пры кожным зручным выпадку і, здаецца, мае неакамуністычны светапогляд. Беларусь Лукашэнкі пагружаная ў мінулае. Ён па-ранейшаму шануе дасягненні Савецкага Саюза, ветэранаў вайны, якія вялі барацьбу, каб выратаваць свет ад фашызму. Па меркаванні Лукашэнкі, краіне пагражаюць знешнія ворагі, якіх ён стварае паводле свайго светапогляду. Беларускі кіраўнік, такім чынам, застаецца пастаянна з мінулага і супраціўляецца зменам на ўсіх кірунках. Ён душыць апазіцыю, але ўсё больш нервуецца, імкнучыся знайсці надзейных сяброў у свеце, які мяняецца.

**«The Jamestown Foundation» (ЗША)**

Дарэчы, удзельнікі «Ляпіса Трубяцкога» не проста крыкуны і казачнікі, яны самі выпрабавалі на сабе ўсе прыколы рэжыму. На радзіме гурт знаходзіцца пад сакрэтнай забаронай і ўжо паўтара гады не дае канцэртаў. Пры гэтым музыкі ад сваёй краіны не адракаюцца і кажуць пра яе заўсёды з любоўю і болем. «Ляпісы» шчыра вераць, што сітуацыя ў дзяржаве, дзе яны цяпер жывуць і адкуль яны родам, зменіцца. Пасыл блізкі да пушкінскага — «*и на обломках самовластья напишут наши имена*». І для гэтых выканаўцаў такая ідэя — не нагода пыжыцца, а шчырае выказванне сваёй пазіцыі і барацьба сваімі творчымі сіламі.

**«Московский Комсомолец» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. ЗА ШТО КАТАЛОНЦЫ ЗАБІЛІ ХРЫСТА?

Новая фішка праціўнікаў выхаду Каталоніі са складу Іспанская дзяржавы — байка пра тое, што ахова Понція Пілата складалася з каталонцаў. Версія з'явілася на старонках салідная газеты «El Mundo». Яе аўтар звяртае ўвагу на тое, што пракуратар Понцій Пілат перад тым, як трапіць у Палесціну, служыў на тэрыторыі Каталоніі, якая 2000 гадоў таму была часткай Рымскай імперыі. Тут, быццам, ён і навербаваў атрад легіянераў, з якім пазней па загаду Рыма адправіўся ў Палесціну. Паводле гэтай тэорыі, менавіта тыя самыя каталонскія легіянеры забілі Хрыста. Пры гэтым, на думку аўтара, тыя легіянеры так жорстка абышліся з месіяй, паколькі былі каталонцамі. Арыгінальная трактоўка Новага Запавету выклікала смех у іспанскай інтэрнэт-прасторы. Шматлікія блогеры прапануюць аўтару напісаць сваё Евангелле.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА СУПРАЦЬ ШАТЛАНДЫІ



Прэм'ер Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран наведаў у Лондане музей Першай сусветнай вайны і заявіў пра пачатак падрыхтоўкі да святкавання 100-й гадавіны гэтай падзеі. 50 мільёнаў фунтаў пойдзе на рэканструкцыю помнікаў, здымкі тэматычных фільмаў і г.д. Па словах прэм'ера, будучыя мерапрыемствы «ўзмацняць наш нацыянальны дух у кожным кутку краіны». Брытанская публіка, здаецца, не зразумела ініцыятывы лідара. Нават сярод кансерватараў было шмат палітыкаў, якія лічаць тую вайну самай вялікая гістарычнай памылкай Англіі ў XX стагоддзі. Як вядома, на той вайне загінула каля мільёна брытанцаў. Таму большасць экспертаў схільныя бачыць у кампаніі настальгіі па Першай сусветнай своеасаблівы сродак прапаганды велічы Вялікабрытаніі, якая дапаможа ўраду перамагчы на рэферэндуме наконт незалежнасці Шатландыі, прызначаным на 2014 год.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ГЕІ ДАПАМОГУЦЬ СЛАВЯНСКАЙ ІНТЭГРАЦЫІ




Сенсацыйную версію прычын нядаўняга прыняцця Вярхоўнай Радай закона супраць прапаганды гомасэксуалізму прапанаваў аўтарытэтны кіеўскі аналітычны штотыднёвік «Комментарии». Як піша аўтар артыкула, згаданая рэформа мае мэту выклікаць у грамадстве калектыўны псіхоз наконт барацьбы з «вычварэнцамі». У выніку людзі не так уважліва будуць сачыць за курсам ураду, які ў самы бліжэйшы час збіраецца пачаць працэс падрыхтоўкі ўступлення Украіны ў Мытны саюз. Выданне піша: «Галоўная ж задача закона — працаваць у наступныя гады, напярэдадні не столькі прэзідэнцкіх выбараў, колькі магчымых рэферэндумаў і галасаванняў у парламенце пра ўступленне ў Мытны саюз і Еўразійскі саюз з Расіяй». Вось такая версія. Наколькі мае рацыю яе аўтар, цяжка сказаць. Хаця б таму, што некаторыя фракцыі адміністрацыі Януковіча асудзілі закон. Напрыклад, новы амбудсмен Валерыя Лутковская, якая лічыцца пратэжэ Партыі рэгіёнаў, заклікала дэпутатаў дапрацаваць закон, паколькі, па яе словах, гэта — маразм. Яна кажа, што першым за прапаганду гомасэксуалізму трэба будзе арыштаваць баксёраў братоў Клічко, якія любяць пазіраваць для прэсы з голым торсам.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. ВАЛГАГРАД ЗНОЎ СТАНЕ СТАЛІНГРАДАМ

Як піша расійская прэса, стаўка рэжыму Пуціна на прапаганду патрыятызму стварыла атмасферу для перайменавання Валгаграда ў Сталінград. З гэтай ідэяй даўно носяцца камуністы і чырвона-карычневыя, аднак ніколі, нават у часы застою, калі вакол вайны быў створаны сапраўдны культ, Крэмль не адважваўся на перагляд хрушчоўскай тапанімічнай рэформы. Аднак цяпер усё можна. Як прыклад — некалькі дзён таму, амаль адразу пасля з'яўлення ўказу прэзідэнта пра падрыхтоўку імпрэзы з нагоды 70-годдзя сталінградскай перамогі, пісьменнік і камерцыйны дырэктар Першага канала ў Санкт-Пецярбургу Мікалай Старых апублікаваў зварот да прэзідэнта з просьбай «вярнуць гораду-герою на Волзе імя Сталінград». На карысць ідэі вяртання гораду новай-старой назвы, ён прыводзіць такі аргумент: яшчэ жывыя ветэраны Вялікай Айчыннай, якія змогуць ацаніць веліч прэзідэнцкага ўказу. Некаторыя эксперты нават называюць канкрэтную дату перайменавання — 19 лістапада (19 лістапада 1942 года пачалося контрнаступленне савецкіх войскаў пад Сталінградам).

**Паводле расійскай прэсы**

ГЕАПАЛІТЫКА

# КАМУ КІРАВАЦЬ АЛЕКСАНДРЭТАЙ?

**Алег НОВІКАЎ**

**Цяперашні ўсплёск напружанасці ў адносінах паміж Турцыяй і Сірыяй можа пахаваць амаль адзіны ў сучаснай гісторыі прыклад мірнага ўладкавання міжнацыянальнага канфлікту на Блізкім Усходзе.**

Той, хто бачыў афіцыйную карту Сірыі, можа лёгка заўважыць, што контуры краіны на ёй трошкі не падобная на тыя, што выяўлены на мапах іншых дзяржаў. Гэта адбылося за кошт турэцкай тэрыторыі, якую сірыйскія картографы прымалявалі да Сірыі. Правінцыя Александрэта (малая Александрыя, або па-турэцку Скандэрун, Іскандэрун) — старадаўні яблык разладу не толькі паміж Турцыяй і Сірыяй, аднак таксама паміж Турцыяй і арабскім светам. Напрыклад, Эль-Рыяд дасюль дазваляе выхадцам з гэтага рэгіёну падарожнічаць у Саудаўскую Аравію без візаў, як бы даючы зразумець: Александрэта — арабская тэрыторыя.

Канфлікт паўстаў у 1920-я гады, калі пасля Першай сусветнай вайны паводле канферэнцыі ў Сан-Рэма вызначаліся кардоны паміж Турцыяй і Францыяй. Апошняй па выніках Версальскай дамовы дастаўся мандат на Сірыю. А Александрэту ўключылі ў склад сірыйскага мандату, што не вельмі спадабалася туркам. У 1923 годзе Атацюрк выступіў са спецыяльнай прамовай, у якой падкрэсліў, што Александрэта — акупаваная іншаземцамі частка турэцкай айчыны.

Паралельна ішоў працэс станаўлення арабскага і сірыйскага нацыяналізму, бацька якога Антун Саадэх увесь час падкрэсліваў ролю гэтай зоны для Сірыі. Па яго словах, кантроль над Александрэтай мусіў гарантаваць бяспеку не толькі для Сірыі, аднак для ўсяго арабскага свету.

У 1936 годзе ў правінцыі ўспыхнулі міжэтнічныя беспарадкі, якія далі нагоду для Анкары патрабаваць у Лігі Нацый перагляду статусу Александрэты. Францыя пагадзілася прызначыць выбары ў мясцовую Асамблею, якая павінна была вызначыць лёс краю. Праз год пачалася рэгістрацыя выбаршчыкаў у тутэйшы парламент. Рэгістрацыя выклікала пратэсты з боку арабаў, паколькі турэцкія ўлады загадалі туркам — жыхарам памежных правінцый, пераходзіць кардон і рэгістравацца ў выбарчых участках на тэрыторыі Александрэты. Адпаведна, вынікі выбараў былі на карысць турэцкага выбарчага спісу — 22 з 40 месцаў у Асамблеі дасталася прадстаўнікам турэцкай грамады.

Так пачалася паступовая інкарпарацыя краю ў склад Турцыі, пераходным этапам якой было стварэнне незалежнай дзяржавы. 2 верасня 1938 года Асамблея абвясціла пра стварэнне новай дзяржавы — Рэспублікі Хатай, якая знаходзілася адначасова пад патранатам Турцыі і Францыі. Так паўстала адна з самых цікавых дзяржаўных фармацый у гісторыі, прычым прызнаная міжнароднай супольнасцю. Нават назву новай дзяржавы давялося прыдумваць з чыстага ліста. Назва Хатай паходзіць ад слова «хеты». Хеты — індаеўрапейскі народ, які ў бронзавы век жыў на паўночным захадзе Блізкага Усходу.

Хаця Рэспубліка Хатай фармальна знаходзілася пад пратэктаратам як Францыі, так і Турцыі, усім запраўлялі туркі. Так, прэзідэнтам новай дзяржавы стаў былы дэпутат турэцкага парламенту. Турэцкая ліра была прызнаная ў Рэспубліцы Хатай дзяржаўнай валютай. Нават сцяг быў прыдуманы асабіста Атацюркам. Затое Рэспубліка Хатай актыўна друкавала свае маркі, якія з'яўляюцца цяпер пярлінай у калекцый любога калекцыянера.

Гульня ў незалежнасць Рэспублікі Хатай цягнулася прыкладна год. Хутка Анкара пачала патрабаваць ад Парыжу цалкам адмовіцца ад Рэспублікі Хатай. У абмен кемалісты абяцалі падтрымку Францыі ў выпадку магчымай пагрозы яе суседнім калоніям з боку Італіі і Германіі (апошнія праводзілі тады вельмі агрэсіўную палітыку ва ўсходняй частцы Міжземнага мора). Парыж пагадзіўся. У чэрвені 1939 года дэпутаты Асамблеі Рэспублікі Хатай прагаласавалі за аб'яднанне з Турцыяй. Навіна выклікала шок сярод прадстаўнікоў мясцовай армянскай грамады, якія памяталі генацыд 1915 года, калі ў Асманскай Турцыі было забіта каля 3 мільёнаў армян. Армяне і шматлікія арабы масава эміграваліі ў Сірыю.

З самага пачатку было відавочна, што трактат пра перадачу Александрэты быў вельмі супярэчлівым. Справа ў тым, што статус падмандатных тэрыторый забараняў перадачу іх часткі нейкай іншай краіне. «Уладальнік мандату (Францыя) бярэ на сябе адказнасць за тое, каб ніводная частка тэрыторыі Сірыі і Лівана не перайшла пад кантроль іншаземнай сілы», — гаварылася ў адпаведнай дыпламатычнай дамове.

Праўда, вядучыя краіны Антанты на той час гэты пункт Версальскай дамовы мала цікавіў. Напрыклад, брытанцы абяцалі сіяністам выдзеліць частку падмандатнай Палесціны для стварэння яўрэйскай дзяржавы. А вось арабы такога кроку Парыжу не прабачылі. У Дамаску і іншых буйных арабскіх гарадах прайшлі маніфестацыі супраць здзелкі.

Нічога дзіўнага, што ў 1946 годзе абвешчаная незалежнай Сірыя з першага дня свайго існавання адмовілася прызнаваць факт прыналежнасці да Турцыі тэрыторыі Рэспублікі Хатай.

З часам праблема стала вельмі важнай і балючай для Анкары, паколькі атрымаць пропуск у Еўрасаюз Турцыя магла выключна ў тым выпадку, калі не будзе мець тэрытарыяльных спрэчак з краінамі-суседзямі. Акрамя таго, Дамаск, каб у тым ліку адпомсціць туркам за Хатай, пачаў падтрымліваць курдскіх сепаратыстаў.

Аднак у 2005 годзе напружанасць вакол пытання былой Рэспублікі Хатай нечакана пачала падаць. Пасля ўзаемных візітаў лідараў Сірыі і Турцыі, хутчэй за ўсё, быў дасягнуты негалосны кампраміс. Дамаск паступова аслабіў тон патрабаванняў вярнуць Александрэту. Як казаў тагачасны міністр замежных спраў Сірыі ў інтэрв'ю агенцтву «France Presse»: «Гэта пытанне, якое не мае вялікага значэння цяпер, будзе вырашана ў будучыні, калі клімат узаемнага даверу дазволіць зрабіць гэта без цяжкасцяў. Пытанне будзе вырашана, аднак зараз яму не трэба надаваць вялікага значэння».

Ізраільская прэса ў той час цытавала кіраўніка Цэнтра стратэгічных даследаванняў у Дамаску, які прызнаваў: «Нягледзячы на тое, што ў Сірыі і далей друкуюцца карты, у якіх Хатай адлюстроўваецца як частка Сірыі, наступныя пакаленні сірыйцаў павінны будуць паступова пазбавіцца мары пра тое, што Александрэта калісьці стане сірыйскай».

Цікавасць ізраільцян да лёсу Рэспублікі Хатай не дзіўная. У Тэль-Авіве даўно думаюць, як зрабіць так, каб Галанскія вышыні — акупаваная ізраільцянамі ў 1967 годзе частка Сірыі, якая мае стратэгічнае значэнне, — былі фармальна прызнаныя часткай Ізраілю. На думку ізраільскіх дыпламатаў, прызнанне Сірыяй поўнага суверэнітэту над тэрыторыяй былой дзяржавы Хатай магло б стварыць прэцэдэнт, які дазволіць пачаць мірныя перамовы пра паступовы пераход пад апеку Ізраіля Галанскіх вышыняў.

**2 верасня 1938 года Асамблея абвясціла пра стварэнне новай дзяржавы — Рэспублікі Хатай, якая знаходзілася адначасова пад патранатам Турцыі і Францыі**

Зараз Турцыя амаль адкрыта падтрымлівае сірыйскую апазіцыю, што ў сваю чаргу ставіць крыж на мірным дыялогу з афіцыйным Дамаскам. Такім чынам, у любы момант зноў можа быць узнятае старое пытанне: каму на самай справе павінна належаць Александрэта? Гэта можа адкінуць міратворчы працэс на Блізкім Усходзе на некалькі дзесяцігоддзяў назад.

ІНТРЫГІ

# АНТЫКУЛЬТУРНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

Алег НОВІКАЎ

**Цяжка ўзгадаць, калі ў апошні раз у Кітайскай Кампартыі (КПК) была такая буйная разборка паміж фракцыямі. Хіба што ў часы Мао, які рэгулярна «перастрахваў» партструктуры на прадмет рознага кшталту рэвізіяністаў. Тым больш камічна выглядае сітуацыя зараз, калі пад каток рэпрэсій трапілі самі нашчадкі Мао — групоўка так званых неамааістаў, нефармальным лідарам якой лічыцца Бо Сілай, экс-кіраўнік гаркаму гораду Чунцын.**

Гэта групоўка, якую частая называюць «шанхайскай» («шанхайцы» абавязаныя сваім вылучэннем былому лідару краіны Цзян Цзэміню, паколькі працавалі з ім у Шанхаі ў перыяд з сярэдзіны па канец 1980-х гадоў), супрацьстаіць больш ліберальнай «пекінскай» або «камсамольскай» на чале з цяперашнім генсакам Ху Цзыньтао і прэм'ер-міністрам Вэнь Цзябао.

Пекін даўно ўжо з падазрэннем глядзеў на рост папулярнасці харызматычнага Бо Сілая. Нейкі час таму ў дзяржаўных СМІ пачалася кампанія пад лозунгам: «Цмок павінен быць адзін» (намёк на тое, што існаванне двух полюсаў улады не адпавядае інтарэсам дзяржавы). З'явіліся нават экзатычныя заклікі да працоўных раскватараваныя ў Чунцыне, нават запатрабавалі публічна пакляўсція ў вернасці Ху Цзіньтао.

Шмат хто звязвае гэтыя падзеі з прызначаным на лістапад з'ездам КПК, які адыграе вельмі вялікую ролю ў далейшым развіцці краіны. Аднак, магчыма, зачыстка «апартуністаў» адлюстроўвае рост сацыяльнай напружанасці ўнутры Кітая і, як след, усё большую папулярнасць дактрын Мао. Што ўяўляе сабой сучасны неамааізм, які прэтэндуе на тое, каб быць вядучай палітычнай апазіцыйнай сілай у КНР?

Яснай праграмы неамааісты не маюць. Можна казаць, што яны патрабуюць перабудовы цяперашняй сацыяльна-грамадскай КНР па прынцыпах т.зв. чунцынскай мадэлі. Чунцын — 30-мільённы горад, у якім Бо Сілай за гады свайго кіраўніцтва стаў сапраўдным лідарам. Бо Сілай карыстаўся велізарным аўтарытэтам сярод насельніцтва і перш за ўсё сярод рабочых за кошт сваёй эгалітарысцкай рыторыкі. Ён таксама рабіў акцэнт на неабходнасці дзяржаўнага кантролю над бізнэсам, арганізацыі працы прадпрыемстваў на аснове калектыўнай уласнасці.

Вялікую ролю ў папулярызацыі чунцынскай мадэлі адыграў і той раскручаны факт, што Бо Сілай вёў жорсткую вайну супраць Трыяды — кітайскай мафіі. У прыватнасці, быў выкрыты як стаўленік мафіі і расстраляны намеснік кіраўніка чунцынскай паліцыі, яго жонка атрымала 20 гадоў турмы за арганізацыю гандлю рабамі. А яе сяброўка — 18 гадоў турмы за гандаль наркотыкамі.

> Вялікую ролю ў папулярызацыі чунцынскай мадэлі адыграў і той раскручаны факт, што Бо Сілай вёў жорсткую вайну супраць Трыяды — кітайскай мафіі

— пісаць песні пра тое, што менавіта таварыш Ху Цзыньтао, а не Бо Сілай узняў краіну.

І тут «пекінскім» пашчасціла. Спачатку правая рука Бо Сілая, віцэ-мэр Чунцына Ван Ліцзюнь быў абвінавачаны ў арганізацыі праслухоўвання тэлефоннай размовы старшыні КНР Ху Цзыньтао. Ван спрабаваў атрымаць прытулак у генконсульстве ЗША, але атрымаў адмову і на выхадзе з консульства быў арыштаваны. Іншым скандалам, якія нанёс удар па рэпутацыі Бо Сілая, стала абвінавачванне яго жонкі Гу Кайлай у забойстве брытанскага бізнэсмэна з-за «канфлікту на глебе эканамічных інтарэсаў» з яе сынам, які вучыцца ў Гарвардзе. Гу Кайлай прысудзілі да смяротнага пакарання з адтэрміноўкай.

Прыкрываючыся лозунгам барацьбы з недахопамі ў Чунцынскім парткоме, рэфарматарскае крыло кіраўніцтва КНР перайшло ў лабавую атаку на «шанхайцаў» якіх афіцыёз называе «апартуністамі». У выніку Бо Сілай зняты з пасады і пазбаўлены партбілета, усе 38 пракурораў Чунцына змененыя, а ад афіцэраў, часткі якіх

Калі прааналізаваць вынікі працы Бо Сілая, можна казаць, што галоўныя лозунгі неамааістаў наступныя: забеспячэнне насельніцтва даступным жыллём, развіццё сацыяльных праграм, адраджэнне паўночна-ўсходніх правінцый, якія з'яўляюцца галоўнай індустрыяльнай базай краіны, справядлівае пераразмеркаванне рэсурсаў, збалансаваны рост і прадухіленне далейшага маёмаснага расслаення ў грамадстве.

Усе гэта густа замешана на настальгіі па Мао. Так, Бо Сілай арганізаваў паходы па месцах баявой славы КПК і адрадзіў конкурсы рэвалюцыйных «чырвоных» песень, якія находзяць з Чунцына. Кіраўніцтва Чунцына нават запатрабавала ад мабільных аператараў, каб яны рассылалі сваім абанентам SMS з цытатамі з маленькай чырвонай кніжкі Мао.

Як бачым, па сутнасці чунцынская мадэль не была камунай хунвейбінаў. Інакш бы яе не хваліў вядомы амерыканскі часопіс «ForeignPolicy», на думку якога Бо Сілай даў урок усім адміністратарам, куды накіроўваць інвестыцыі, каб яны ў выніку хутка выклікалі спажывецкі рост і прыцягнулі новыя інвестыцыі.

Аднак апошні часам унутры «шанхайцаў» пачала фармавацца больш радыкальная група «Новыя левыя». Яны адыходзяць ад умераных лозунгаў Бо Сілая і яго настаўніка Ху Цзыньтао, які лічыў, што для «пабудовы сацыялістычнага гарманічнага грамадства» варта «аказваць шырэйшую падтрымку бедным без шкоды для багатых». Новыя левыя лічаць залішнюю лібералізацыю згубнай для краіны і настойваюць на тым, што адзіным адказам на масавыя сацыяльныя выклікі было вяртанне КНР да запаветаў Мао. Такія настроі ўсё больш папулярныя ў народзе.

Своеасаблівай ілюстрацыяй праграмы «Новых левых» ёсць матэрыялы працэсу ў горадзе Чжэнчжоў, дзе ў 2005 годзе судзілі 4 мааістаў. Іх арыштавалі за распаўсюд улётак, якія заклікалі кітайцаў вярнуцца на сацыялістычны шлях і крытыкавалі цяперашняе кіраўніцтва ў Пекіне за здраду ідэалам Мао (суд, дарэчы, даў усім па тры гады турмы). Падчас выступаў абвінавачаныя намалявалі контуры неамааісцкага Кітаю. На іх думку, дзяржава павінна забараніць любыя формы асабістай уласнасці ў эканоміцы і палепшыць якасць забеспячэння прадуктамі простых людзей. У выпадку перамогі неамааісты правядуць канфіскацыі багацця вярхушкі кітайскага грамадства. Калі меркаваць па гэтых заявах, пакуль кітайскія новыя левыя не маюць аформленай канструктыўнай праграмы.

Такой жа думкі прытрымліваецца і брытанскае выданне «New Left Projec», якое паспрабавала разабрацца з феноменам павелічэння інтарэсу да спадчыны Мао сярод кітайцаў. На думку аўтараў даследавання, пакуль пратэсты мааістаў абмяжоўваюцца абстрактнымі патрабаваннямі рэстаўрацыі ў Кітаі сялянска-рабочай дзяржавы, падкантрольнасці чыноўнікаў народу і прызначэння кіраўніком краіны Бо Сілая, які, на іх думку, ёсць рэінкарнацыя Мао.

З улікам прымітыўнага характару праграмы неамааістаў можна сцвярджаць, што асаблівай пагрозы неамааізм для КНР не ўяўляе. Нават калі сацыяльны пратэст выйдзе з-пад кантролю, Бо Сілай, які мае неабмежаваны аўтарытэт, паставіць яго ў рамкі памяркоўных рэформаў. Дарэчы, брытанскі «The Guardian» лічыць Бо Сілая звычайным папулістам, які папросту ўмее вешаць локшыну пра сацыялізм. Сам ён, як паказвае справа яго жонкі, вёў далёка не пралетарскі лад жыцця.

Хаця іншыя выданні лічаць, што пагроза вяртання хунвейбінаў цалкам рэальная. Так, брытанскі «Sydney Morning Herald» піша: «Калі цяперашняя тэндэнцыя працягнецца, то разрыў паміж багатымі і беднымі кітайцамі дасягне той пагрозлівай пазнакі, калі Кітай зноў можа апынуцца ў руках камуністаў».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ДЗМІТРЫ ЕЎСЮТКІН



Кампанія кандыдата ад Пірацкай партыі Расіі ў мэры Калінінграда, выбары якога адбыліся на мінулым тыдні, стала своеасаблівай лакмусавай паперкай. Яна павінна была адказаць на пытанне, наколькі ў Расіі могуць быць папулярныя ідэі Партыі піратаў — руху за вольны інтэрнэт без цэнзуры і без аўтарскіх праў, які набірае моц на Захадзе. Еўсюткін аказаўся першым рускім «піратам», які пайшоў на выбары. Першы блін, на жаль, аказаўся камяком. За прадстаўніка «піратаў» прагаласавала толькі 2 працэнты тых, хто прыйшоў на ўчасткі. Пераможцам, дарэчы, аказаўся афіцыйны кандыдат Аляксандр Ярашук, якога падтрымалі 56 працэнтаў выбаршчыкаў. Правал у Калінінградзе выклікаў сапраўдны смутак у шэрагах расійскай Партыі піратаў. Справа ў тым, што блізкі да Еўропы Калінінград — адзін з самых прасунутых у галіне развіцця інтэрнэту і ўзроўню грамадскай свядомасці гарадоў у Расіі. Відавочна, што пасля гэтага надзеі паўтарыць шлях нямецкіх калег, якія збіраюць на камунальных выбарах да 15 працэнтаў, давядзецца пахаваць. Хаця не выключана, што такі ўраджай галасоў тыя ж «піраты» сабралі з-за нізкай яўкі. На выбары ў Калінінградзе прыйшло ўсяго каля 20 працэнтаў ад зарэгістраваных.

### ХАЙНЦ БУШКОЎСКІ



Бургамістр берлінскага раёна Новы Кёльн, сябра сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі (SPD) стаў галоўным ворагам нямецкіх туркаў з-за сваёй кнігі «Новы Кёльн — паўсюль». Кніга распавядае пра вопыт працы Хайнца ў згаданым раёне, дзе жыве шмат этнічных туркаў. Ён некалькі разоў паўтарае свой стары тэзіс пра тое, што стаўка ўладаў ФРГ на мультыкультурнае грамадства не працуе. Па яго словах, тое, што туркі адчуваюць сябе туркамі, не дае ім інтэгравацца ў грамадства і, адпаведна, яны не нясуць за яго адказнасць. Уся прагрэсіўная грамадскасць і турэцкая грамада абрынуліся на Хайнца. Самае непрыемнае для эсдэкаў — тое, што кніга Бушкоўскага вельмі моцна падкасіла папулярнасць SPD сярод немцаў турэцкага паходжання (іх у Германіі некалькі мільёнаў) прычым напярэдадні прызначаных на наступны год выбараў у Бундэстаг. Цяпер кіраўніцтва SPD намагаецца супакоіць пратэст туркаў, называючы кнігу Хайнца часткай дэбатаў. Між тым, «зялёныя» — галоўныя канкурэнты «ружовых» у барацьбе за галасы нямецкіх туркаў — збіраюць стрыгчы купоны. Галасы туркаў у наступным годзе, хутчэй за ўсё, дастануцца ім.

### ЭВА МАРАЛЕС



Прэзідэнт Балівіі нестандартна ахарактарызаваў цяперашнія яго кантакты з амерыканскай дыпламатыяй наконт аднаўлення дзейнасці ў Ла-Пасе (сталіца Балівіі) пасольства ЗША. «Для мяне аднавіць гэта (тыя кантакты), тое ж самае, як забрудзіць экскрэментамі», — сказаў Маралес. Нагадаем, што сітуацыя ў галіне адносін Балівіі і ЗША блізкая да схемы Беларусь — ЗША. У 2008 годзе Маралес загадаў паслу ЗША пакінуць краіну, абвінавацїўшы ў спробе арганізацыі змовы супраць яго рэжыму. З таго часу краіны кантактуюць праз інстытуты часовых павераных, і, як бачна, ніякага прасвету не прагладаецца. Пра экскрэменты Маралес сказаў у рамках вялікай прамовы ў рамках Дня дэкаланізацыі — у гэты дзень у суседніх краінах святкуецца адкрыццё Амерыкі Калумбам. Па словах прэзідэнта, патрэбна і далей працягваць працэс культурнай і эканамічнай дэкаланізацыі краіны ад наступстваў таго, што зрабіў Хрыстафор Калумб. Застаецца сказаць, што цяперашнія адносіны ЗША і Балівіі параўноўваюць з вядомым эпізодам у гісторыі дыпламатыі. У сярэдзіне XIX стагоддзя балівійцы выгналі брытанскага пасла, пасадзіўшы яго на асла. З-за гэтага каралева Вікторыя загадала прыбраць выяву Балівіі з палітычнай карты свету.

СПАДЧЫНА

# МАСТАК АНТОН КАРНІЦКІ

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Бліскавіцай прамільгнула жыццё таленавітага юнака, з адвечна пакутнымі пошукамі гармоніі душы і свету, імкненнем падзяліцца ўласнымі набыткамі прыгажосці. Такое кароткае жыццё — толькі 32 два гады. Нарадзіўся Антон Карніцкі 30 снежня 1912 года ў Адэсе, а пакінуў гэты свет 25 студзеня 1944 года ў Слоніме. Жыццё не толькі не асэнсаванае, не ацэненае, але па-ранейшаму прыкрытае вэлюмам загадак, тугім суплётам недагавораак, фальклорна-легендарных успамінаў і чутак, мясцовых апокрыфаў, бездання суб'ектыўных дапушчэнняў цяперашніх даследчыкаў.**

Антон Карніцкі — адзін з нешматлікіх заходнебеларускіх творцаў, якому яшчэ «за Саветамі» знайшлося месца ў шасцітомнай «Гісторыі беларускага мастацтва». Але чамусьці ўжо ў найноўшыя часы, у «Гісторыі мастацтва і дойлідства Беларусі» (Вільня, ЕГУ, 2007 г.) аўтар-укладальнік С. Харэўскі абмінуў творцу ўвагай. З прычыны адметнага канцэптуальнага падыходу аўтара не знайшлося яму месца і ў «Нарысах па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу». А дарэмна… Паспрабуем хоць бегма зліквідаваць гэты прагал, тым больш што 30 снежня — стогадовы юбілей творцы.

## У свет па асвету

Па вяртанні ў 1922 годзе сям'і з Адэсы ў вёску Любанічы ля Слоніма, бацькі юнака, які паходзіў «з беднай сялянскай сям'і», аддалі яго на навучанне ва ўстанову з грунтоўнай гуманістычнай скіраванасцю. Прынамсі, з добрымі курсамі сусветнай і польскай гісторыі, выкладаннем французскай і нямецкай (апрача польскай і беларускай) моваў — у Дзяржаўную гуманістычную гімназію імя Адама Міцкевіча ў Наваградку, дзе ён закончыў пяць класаў (паводле іншых, таксама не дакументаваных звестках, Антон Карніцкі ўсё ж такі закончыў поўны курс гімназіі, але матуральныя іспыты не здаваў).

Гімназія імя Адама Міцкевіча прытрымлівалася высокіх крытэраў мастацкай адукацыі і эстэтычнага выхавання, і мо тут у юнака і была закладзена трывалая «любоў да паэзіі і музыкі»? Але маладзёна ўпарта гукаў да сябе набыты бацькам лапік зямлі ў Рышчыцах пад Слонімам. З іншага боку, душа ўпарцілася: «прыгожы, стройны як таполя, юнак з адкрытым, натхнёным тварам і прамяністымі вачыма… чалавек вялікай душы, улюбёны ў мастацтва…» быў на раздарожжы. Яго перапаўняла жаданне маляваць, якое



Антон Карніцкі. Аўтапартрэт

падагравалася прысутнасцю ў тыя часы ў Наваградку «сапраўднага мастака» — дзядзькі Язэпа… Язэпа Драздовіча. Вось тады, замест таго, каб застацца памочнікам на бацькавай гаспадарцы, і рушыў Антон шукаць сваю долю ў шырэйшы свет.

«У Варшаву» — меркаваў тытулаваны даследчык беларускай савецкай мастацтвазнаўчай школы Віктар Шматаў. Такія высновы ён рабіў, відаць, на падставе ўспамінаў паэта і чалавека няпростага лёсу Сяргея Новікава-Пеюна, які сябраваў з мастаком ад лета 1934 года. Хутчэй за ўсё, дапускае ўслед за ім у 2009 годзе слонімскі журналіст і краязнаўца Сяргей Чыгрын, Карніцкі «быў вольным слухачом» Варшаўскай школы мастацтваў (пасля 1932 года Акадэміі мастацтваў). Сяргей Новікаў-Пяюн згадваў, што Антон «вучыўся ў мастацкай школе Панкевіча ў Варшаве».

Пры ўсёй павазе да гэтай асобы, пры ўсім разуменні канцэптуальнай беларусацэнтрычнасці ўспамінаў і іх суб'ектыўнага характару, што абумоўлены не толькі наяўнасцю «ўнутранага рэдактара», але і натуральнай уласцівасцю чалавечай памяці, пагадзіцца з гэтым цяжка. Але перадусім даведка:

*Юзаф Панкевіч (29.XI.1866, Люблін — 4.VII.1940, Францыя) паходзіў з элітарнай мастацкай сям'і — сын педагога Яна і брат кампазітара Эўгеніўша. Навучанне жывапісу распачаў у варшаўскім класе малюнку пад кіраўніцтвам славутага Герсана і Камінскага, у Пецярбургу (1885–1886.) У 1886 годзе наведаў Парыж. Пасля вандравання па Еўропе (Галандыя, Бельгія, Італія, Англія і Францыя ў 1897–1906 гадах) стаў прафесарам Кракаўскай акадэміі мастацтваў. У 1919–1923 гадах жыў у Парыжы. У 1923 годзе аднавіў сваё прафесарства ў Кракаўскай акадэміі. Да пераезду ў Францыю быў адэптам класічнага рэалістычнага жывапісу, абагаўляў Матэйку і патрабаваў ад вучняў максімальнай ілюзорнасці ў малюнку. Імпрэсіяністычнасць у Кракаўскай акадэміі асуджалася як «сырасць». (Тое, чым, па меркаванні Сяргея Харэўскага, не патрафіў кракаўскаму прафесару таксама і другі выбітны беларускі мастак Пётр Сергіевіч). У 1925 годзе Панкевіч з'ехаў да Парыжу на сталае жыхарства, дзе ачоліў філію кракаўскай Акадэміі і стаў афіцыйным апекуном моладзі, што прыязджала з абсягаў II Рэчы Паспалітай. Панкевіч быў сябрам суполкі «Штука», у складзе якой паказваў свае творы і ладзіў персанальныя выставы жывапісу — у 1901, 1902, 1903, 1908 гадах, выставы графікі — у 1911 і 1921. Таксама экспанаваў свае творы ў галерэях і музеях: Парыжа, Варшавы, Кракава, Лодзі, Познані і г. д.*

Яшчэ ў сярэдзіне 1920-х гадоў у купкі студэнтаў Кракаўскай акадэміі, відаць, падахвочанай расповедамі і ўражаннямі пана прафесара, узнікла задума супольна выехаць у Парыж для вывучэння сусветнага мастацтва і засваення яго еўрапейскіх здабыткаў. У 1923 была ўтворана адмысловая суполка прыхільнікаў гэтай ідэі — Камітэт парыжскі (КП). КП з імпэтам узяўся за пошук сродкаў на рэалізацыю задумы. Пазней, у 1924 годзе, у Парыжы яны здабывалі падтрымку ладжаннем тэатралізаваных і мастацкіх імпрэзаў, выкананнем замоваў, правядзеннем латарэяў, удзелам у конкурсах. Афіцыйная выстава суполкі «КП», так званых «капістаў», а пазней каларыстаў, у склад якіх уваходзілі П. Патвароўскі, А. Нахт-Самборскі, З. Валішэўскі і інш., адбылася ў 1930 годзе ў парыжскай галерэі «Zak». Другая — вясной 1931 года ў галерэі «Moos» у Жэневе, а затым — у Варшаве.

Слушна заўважае сп. Чыгрын, што «школа Панкевіча» — гэта не інстуцыялізавана-зацугляная ўстанова, а тое творчае кола, якое рэпрэзэнтавала адметныя рысы, уласцівыя творчасці прафесара, тое кола, з якім шчыльна кантактаваў беларускі мастак («тусаваўся»). Гэта мог быць асяродак не абавязкова варшаўскі, але і кракаўскі. Дарэчы, не скажам, што шмат, але былі беларусы і ў Кракаве. Па вызначэнні даследчыка д-ра Сядуры, перад вайной менавіта ў Кракаве працаваў адзін з лепшых беларускіх мастакоў Алесь Трайковіч.

Усё магло выглядаць наступным чынам.

## Апокрыф першы

Каб атрымаць польскі пашпарт (паўнавартаснае грамадзянства), дзесьці ў сярэдзіне 1930-х гадоў Антон Карніцкі быў змушаны адбыць тэрміновую вайсковую павіннасць, пасля чаго застаўся ў Малапольшчы. Здзяйсненне юнацкай мары — стаць мастаком, вымагала грунтоўнага прафесійнага навучэння і ахвярнага жыцця ўвогуле.

Якраз у 1931–1934 гадах большасць «капістаў першага пакліканя» вяртаецца дадому, у асноўным у Кракаў. Увогуле ж «вяртанне» як глабальны працэс доўжылася да 1937–1938 гадоў. Сярод «вяртанцаў» таксама былі калі не беларусы, то выхадцы з гэтых земляў. Да прыкладу, сурадзіч мінскага губернатара, узнагароджаны ордэнам за ўдзел у польска-бальшавіцкай вайне, будучы ротмістр польскага войска і будучы вязень Старабельскага лагера, мастак і літаратар Юрый Чапскі (1896–1969). Але бясспрэчным завадатарам суполкі быў Ян Цыбіс (1897–1972).

Сын сталяра і хатняй гаспадыні са шматдзетнай сям'і, Ян Цыбіс да паступлення ў Кракаўскую акадэмію мастацтваў (чаму вельмі праціўіўся бацька) шмат чаго паспеў: добра засвоіць лацінскую мову ў вроблінскага пробашча, павандраваць па Еўропе ў якасці партнёра аднаго з нашчадкаў Чартарыйскіх (з-пад Каліша), закончыць Начэнслаўскую гімназію, а галоўнае — на ўсё жыццё ўсвядоміць, здавалася б, досыць «банальнае» сцвярджанне настаўніка малявання — Ханса Блоха, што «колер у жывапісе складаецца са спалучэння розных, не шэрых колераў» і «гучыць» залежна ад суседства. Ужо ў Кракаве пры змене аўстрыйскага грамадзянства на польскае Ян Цыбіс змяніў і пісьмовы варыянт свайго прозвішча на больш польскі, але па-польску размаўляў кепска і, беручы ўдзел у дыскусіях, змушаны быў гаварыць па-нямецку.

Менавіта ў Кракаве Цыбіс з усёй уласцівай яму энергіяй узяўся за арганізацыю мастацкага жыцця. Але адна справа — аб'ядналь колькі маладых мастакоў-адзінадумцаў. І, згадзіцеся, зусім іншая — сфармаваць устойлівае кола гледачоў-прыхільнікаў. «Спажыўцоў», мецэнатаў — пакупнікоў, бо мастацтва капістаў было арыентавана на вузкі зрэз «інтэлектуалаў»… Для шырокай публікі ідэалам народнага (нацыянальнага) мастацтва заставаўся Войцех Косак. Для спрыяння перамене сітуацыі ў 1932 годзе быў запачаткаваны адмысловы часопіс «Gios Plastykyw», які рэдагаваў Ян Цыбіс. Часопіс меў карэспандэнтаў у Лодзі, Познані, Быдгашчы, Торуні, Сопаце, Варшаве і іншых гарадах.

Антон Карніцкі, калі застаўся ў Кракаве (тапаграфічна з гэтым горадам знітавана прафесійнае вызначэнне «школа Панкевіча»), або перабраўся туды, напачатку насцярожана ўглядаўся ў размаіта-багемнае жыццё акадэмічнай і каля акадэмічнай моладзі, падзеленай на шматлікія творчыя суполкі. Але паступова ўцягнуўся ў звабны ўрбаністычна-артыстычны рытм колішняй сталіцы.

Бадай, галоўным пацвярджаннем, што Карніцкі не быў «вольным слухачом» Варшаўскай акадэміі мастацтваў, з'яўляецца адсутнасць яго прозвішча ў «Рукапісных матэрыялах Архіва асабовых спраў студэнтаў» гэтай установы.

Але грымнуў 1939 год, які перайначыў мільёны чалавечых лёсаў па ўсім свеце… Антон вяртаецца на радзіму, ужо савецкую.

## Вайна ў хаце

Антон Карніцкі вяртаецца цяжка хворым на сухоты. Па легендзе, захварэў у дарозе да дому. Па вяртанні з Кракава ён з непазбежнасцю акунуўся ў савецкую рэчаіснасць. Яму давялося шмат што пабачыць і паспытаць, зрабіць уласныя высновы. Каб выплысці, трэба было прыкласці фізічных і маральных намаганняў не меней, а то і болей, чым у той самай «клятай панскай Польшчы».

Мастацтвазнавец д-р Сядура лічыў, што «зарука будучага росквіту і адраджэння беларускага мастацтва — глыбокі нацыянальна-дэмакратычны характар і змест… у працах слонімскага мастака нябожчыка Антона Карніцкага, наваградскага мас-



А. Карніцкі. Студэнтка

така Аляксандра Рамашкевіча (вучня берлінскай школы — С. Г.), у вобразах Сеўрука з Нясвіжа, у пейзажах і кампазіцыях выдатнага беларускага мастака з Рыгі — Пётры Міратновіча і мастацкай славы Заходняй Беларусі — няўтомнага дзеяча малярства Пётры Сяргіевіча з Вільні».

Зразумела, што прыведзеная цытата чагосьці вартая не з-за колькаснага пераліку прозвішчаў мастакоў, трапнай фармулёўкі вядучай тэмы, але перадусім з-за досыць поўнага вызначэння стылёва-творчых прыярытэтаў, напрамкаў, што рэпрэзентуе кожны з названых мастакоў. У гэтым сэнсе імя 29-гадовага Антона Карніцкага, які толькі-толькі намацаў свой індывідуальны стыль, поруч з зіхоткімі імёнамі беларускіх «патрыярхаў» жывапісу, мяркуем, названа сімвалічна. Са своеасаблівым канцэптуальным «прыжмурам», як кажуць, для большай «пукатасці выявы».

Насамрэч, апакаліптычныя 1940-я гады былі для Антона Карніцкага часамі найбольшага творчага плёну. У ваенныя часіны, калі ў Слоніме, як ніколі да гэтага, завіравала нацыянальнае мастацкае жыццё, ён, апрача ўдзелу ў супольных мастацкіх імпрэзах, зладзіў некалькі персанальных паказаў. Штосначны і нязбыўны прысмак крыві, водбліск вогнішчаў, смерці і голаду, здавалася, ніяк не астудзілі цікаўнасць да мастацтва. Надзіва ладна разыходзіліся партрэты і нават эскізныя накіды мастака.

«Душа слонімскай моладзі» — невылечна хворы мастак, які ўжо паспеў зазірнуць у іншасвет, аптымізму не губляў. Вельмі цвяроза і спакойна ўсведамляў ён марнасць існага і канчатковасць зямнога шляху... І мо таму, згадваў пазней паэт Сяргей Хмара: «...У Слоніме страляюць,.. а яму (А. Карніцкаму — С.Г.) хоць бы хны: бярэ стульчык, ідзе на сялянскі кірмаш, сядае і малюе. Немцы яго неяк арыштавалі і хацелі паслаць у лагер як «остарбайтара».

Але Камітэт Самапомачы звярнуўся да слонімскага гэбітскамісара ў ягоную абарону і папрасіў, каб яго ніхто не чапаў і даў дазвол на маляванне. Камісар аказаўся аматарам мастацтва і даў дазвол. Але сказаў Карніцкаму, каб ён прыносіў у камісарыят свае творы для прагляду. Той прыносіў, і камісар лепшыя за танныя грошы ў яго купляў, а астатнія дазваляў прадаваць ці дарыць іншым людзям. Даваў яму немец і прадуктовыя карткі.

Антон, згадвалі сучаснікі, нічога не баяўся. Больш за тое, наўрад ці задумваўся, што сваімі выхадамі ў горад на натуру ён развязвальваў свядомасць сланімчан, «выхоўваў» іх, прызвычайваў да думкі, што мастак — не якісь гультай-абібок, а самы натуральны працоўны чалавек. У «не надта» прыдатныя для мастацтва часы, традыцыйна рэалістычны жывапіс Карніцкага, што меў «глыбокі нацыянальна-дэмакратычны характар і змест», у большасці выпадкаў абапіраўся на зямліста-шэрую «прадметную» гаму і сацыяльнабалючыя кропкі жыцця, якія так любілі познія рускія перасоўнікі (зрэшты, недалёка ад якіх адыходзіла каляровае мысленне паслядоўнікаў польскага мастака Косака). Але раптам яго твор выбухаў дзівосным блакітам бяздоннага неба, дыхаў і трымцеў нягучна-ўпартым спевам барвовазалацістага верасня.

## Апокрыф другі

У сярэдзіне 1990-х даводзілася чуць у Вільні ад старога беларускага культурніка і грамадскага актывіста Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера), што немцы вывезлі ў Германію 400 твораў мастака. Больш сціплую лічбу — «180 карцін» — называе біёграф мастака Сяргей Чыгрын і, абапіраючыся на слонімскага настаўніка Уладзіміра Шундрыка, прыводзіць наступны характа-



рыстычны «ўспамін». Гебітскамісар горада Эрэн паклікаў да сябе Антона Карніцкага, загадаў маляваць для яго карціны на тэмы краявідаў Слоніма і Слонімшчыны, і творы прыносіць да яго. Антон быў змушаны маляваць і прыносіць Эрэну свае карціны, бо калі б ён гэтага не рабіў, яго б саслалі ў Нямеччыну ці ў канцлагер. Гебітскамісару падабаліся працы Карніцкага, нават тыя з іх, што рабіліся экспромтам. Ён не лічыў патрэбным хаваць свае намеры ад мастака і прад'явіў яму аднойчы сваё патрабаванне: «Не трэба пад карцінамі вашага прозвішча, пан Карніцкі».

## Пра спадчыну мастака

Шматлікія аптымістычная прыпавесці гэткага кшталту падштурхнулі слонімскага журналіста да апантанага пошуку. Перабольшанае ўяўленне пра надзвычайную каштоўнасць кожнай рыскі мастака ў выніку змусіла краязнаўцу не болей чым скрушна, «па-народнаму» пажартаваць: «Хто ж вам зараз праўду скажа!» Магчыма дапусціць, што зараз нам вядомыя не самыя лепшыя творы мастака, бо «трэба было карміцца». Таму карціны «Стары», «Муляр», «Рамонкі», «Бэз», «Дзяўчына з ягадамі», «Кудзельніца», «Рынак у Слоніме», «Хата ў Рышчыцах», «Стары дом у Слоніме», «Хлеў і гумно ў Рышчыцах», «Аўтапартрэт», «Аўтапартрэт мастака ў 1943» — гэта творы, што былі набытыя Слонімскім краязнаўчым музеем улетку 1943 года, і належалі пэндзлю мастка, але і (а мо ў першаю чаргу) адпавядалі тэматычным прыярытэтам і эстэтычным густам тагачаснага кіраўніцтва музея.

Вядома яшчэ некалькі прац, што выявіў Сяргей Чыгрын. І гэта пакідае надзею на праўдападобнасць паўлегендарных звестак, што дзесь, у прыватнай калекцыі невялікага раённага гарадка захоўваецца ладны збор якасных твораў мастака.

Нібыта і ўсё... Але «збіраць зярнятка да зярнятка» варта не толькі для таго, каб знайсці «разгадку нашых крыўдаў, бед». Калі расшукваеш творы, высвятляеш акалічнасці жыцця і творчасці гэтага мастака, як ніколі выразна бачыцца нерэалізаваны лёс Заходняй Беларусі, яе патэнцыял, магчымасць адметнага шляху і перакананасць, што ў экспазіцыі будучага музея духоўнай (мастацкай) культуры Заходняй Беларусі творы мастака Антона Карніцкага зоймуць пачэснае месца.

---

КУДЫ ІДЗЕШ, МАЯ КРАІНА

# БЕЛАРУСКАЕ КІНО... НЕІСНУЮЧАЕ

Віталь ВОРАНАЎ



*— А я, калі вайна скончыцца, пайду вучыцца, каб кіно рабіць.*
*— Якое кіно, нямецкае? (Паўза. Пётраў рогат.) А якое, савецкае? (Ізноў Пётраў рогат.)*
*— Наша кіно, беларускае!*
*— Гэта ты дурны, Пятро! Няма ніякага беларускага кіно і не будзе ніколі...*

Размову са стужкі Андрэя Кудзіненкі: «Акупацыя. Містэрыі» можна па праву лічыць найлепшым дыялогам (сцэнар напісаў Аляксандр Качан) таго самага неіснуючага беларускага кіно. У нейкім сэнсе гэты дыялог апярэджвае яшчэ не на сто адсоткаў беларускі фільм. Але пра ўсё па чарзе.

Фільм гэты складзены са шматлікіх элементаў, але ў выніку — надзвычай цэласны арганізм. Адпаведна, каб быць беларускім, ён павінен быць беларускі ў кожным сваім элеменце. У малярстве, паэзіі, музыцы ўсё нашмат больш сінгулярна, а кіно — гэта цэлы арганізм. Дзяўчына з заходняй Беларусі, дзе адбываюцца падзеі, не мае права гаварыць па-польску з расійскім акцэнтам. Расійскі пранонс знішчае цэласнасць прэтэнзій на беларускасць фільму і разбівае яе на дробненькія аскепкі. Таму што для таго, каб зрабіць беларускі фільм, не дастаткова, каб сцэнар быў напісаны беларускім сцэнарыстам, здымкі зробленыя беларускім рэжысёрам, а ў фільме задзейнічаныя беларускія акторы. Насуперак пашыранаму ўяўленню, беларускасць фільму акрэслівае не толькі яго вонкавая беларускамоўнасць, але і ўменне задзейнічаных стваральнікаў фільма думаць па-беларуску. А з гэтым ужо больш складана.

Возьмем, напрыклад, другі фільм Андрэя Кудзіненкі «Масакра», на які цэтлік «новае беларускае кіно» быў павешаны заўчасна. Тут, як і ў большасці небеларускіх фільмаў, прысутнічае лютае памкненне адлюстроўваць сацыялінгвістычныя рэаліі, пры адначасовай расхлябанасці ў астатнім. Ніхто, мабыць, столькі не засяроджвае ўвагі на нібыта дакладным прадстаўленні моўнай сітуацыі, як сучасныя стваральнікі кіно пра Беларусь. У шматлікіх анонсах чытаем: «Самая адметная рыса сцэнару: кожны з герояў гаворыць на сваёй мове. Граф і нявеста размаўляюць папольску, госці-чыноўнікі — паруску, а сяляне — на беларускай». Асноўная мэта такога падыходу ў тым, каб апраўдаць тое, што фільм не здымаецца на беларускай мове. Маўляў — усё так, як было ў той час. Тады зноў, чаму пры такой лабараторнай дакладнасці, Ганна з цёткай, улічыўшы, што польская мова для іх родная, гавораць на ёй з рускім акцэнтам? Дарэчы, беларуска Аксана Лясная ў такім параўнанні гучыць нашмат больш пераканаўча. Калі рускіх актораў навучыць гаварыць па-польску (а ў прынцыпе, на крэсовай польскай гаворцы), можа, і складана, дык чаму, напрыклад, зноў жа дзеля дакладнасці, не скарыстацца тэхнікай дабінгу. Больш за тое, ну не можа лічыцца беларускім фільм, у якім беларуская мова перакладаецца субтытрамі на рускую. Такі фільм мэтава робіцца для рускай аўдыторыі, якая не разумее ані польскай, ані беларускай. Прычым адваротнае (перакладанне рускай беларускімі субтытрамі) было б ужо значна больш дарэчы.

Калі ў галоўных ролях здымаюцца тры расійскія акторы, то фільм наогул беларускім быць не можа па сваім вызначэнні. Спасылацца на адсутнасць добрых актораў не варта, бо задзейнічаныя ў другапланавых ролях беларускія акторы іграюць ярка і шыкоўна. Атрымліваецца, што ледзь не адзіны сапраўды беларускі элемент фільму — гэта мастацкае аздабленне Артура Клінава і ягоныя надзвычай арыгінальныя саламяныя скульптуры.

Калі аднойчы мне пашанцавала гасцяваць у Лондане ў легендарнага айца Надсана, то давялося пачуць ад гаспадара вельмі цікавую думку. Калі я пытаўся ў яго, пад якім дахам найлепш шукаць сховішча для невялічкага збору кніг беларускага цэнтра ў Познані, ён адказаў, што лепш за ўсё — пад сваім. У прыклад айцец Надсан прывёў дзейнасць беларускай бібліятэкі ў Лондане і сказаў, што пакуль мы, беларусы, будзем залежаць ад чужых грошай, датуль давядзецца танчыць пад дудку дабрадзеяў. Дык вось, да ўсяго сказанага, беларускі фільм яшчэ павінен быць зняты за беларускія грошы. Вядома, патрабаванне гэта ў наш час больш чым складанае, але будзем спадзявацца, што не немагчымае. У выпадку, калі нашы фільмы будуць працягваць здымацца за чужыя грошы, то такія гістарычныя моманты, як, напрыклад, верасень 1939 года, застануцца нам бачныя праз прызму грантадаўца. Кіно патрабуе занадта вялікіх сродкаў, каб дазволіць стваральнікам заносіць у яго сваю беларускую кантрабанду.

Ну а пакуль сучаснае беларускае кіно хутчэй на падыходзе, чым на гарызонце, то прапаную ў чаканні часцей звяртацца да нешматлікіх, але сапраўдных беларускіх фільмаў — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1967, 1989) ці «На чорных лядах» (1994), якія на сваім прыкладзе адлюстроўваюць агучаную тут складанасць і драматычнасць праблемы.

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# :B:N: «КРОК ЗА КРОКАМ» ДА СВАІХ СЛУХАЧОЎ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Цяпер у Беларусі запісаць і выдаць поўнафарматны альбом, зрабіць яму рэкламу і годна прэзентаваць стала вялікай праблемай. Тут адбіваецца і недахоп фінансаў, і цень «чорных спісаў», і малая колькасць выдаючых лэйблаў. Таму, пры вялікай колькасці разнастайных выканаўцаў і гуртоў, лічба выдадзеных аўтарскіх дыскаў не адпавядае агульным творчым магчымасцям прадстаўнікоў айчыннай рок-сцэны і выканаўцаў іншых музычных напрамкаў.**



Граюць Алесь Лютыч і Алесь Зайцаў

З-за гэтых праблем музыканты імкнуцца адразу стрэліць «на ўсе сто» — сабраць на свой чарговы дыск самае лепшае як у кампазіцыйным плане, так і з пункту гледжання тэкстаў, якасці гучання калектыву. Пакуль адбываецца «натуральны адбор» the best-твораў, выбар аптымальнага варыянта запісу, праходзіць даволі шмат часу, і ёсць вялікая верагоднасць, што слухачы могуць адвыкнуць ад песень і музычных інавацый таго ці іншага выканаўцы. Але гэта не пра гурт «:B:N:» і іх новы альбом «Крок за крокам», на рэалізацыю якога музыканты аддалі каля шасці гадоў свайго творчага жыцця. Што ж за гэты час адбылося з камандай з Бярозы: ці памятаюць слухачы сваіх куміраў, ці да спадобы ім новыя хіты, новыя стылістычныя пошукі выканаўцаў? На гэтыя пытанні належала даць адказ гурту «:B:N:» менавіта на прэзентацыі дыска «Крок за крокам», якая не так даўно адбылася ў клубе «RE: PUBLIC».

Пра тое, як будзе разгортвацца канцэртная праграма той ці іншай рок-каманды, можна здагадацца па складу публікі, якая ідзе на іх канцэрт. Што тычыцца «:B:N:», то іх фан-база — нацыянальна арыентаваная моладзь, якая верыць у ідэалы вольнасці, дэмакратыі і незалежнасці краіны. Да таго ж, гэтыя хлопцы і дзяўчаты добра разбіраюцца ў найноўшых тэндэнцыях у рок-музыцы і, у прыватнасці, беларускага рок-руху. Дадайце і тое, што слухачы на памяць ведаюць словы і мелодыі песень сваіх куміраў — і вы будзеце мець партрэт сучаснага прыхільніка беларускай рок-музыкі. Хоць трэба адзначыць, што на такія канцэрты з розных выпадкаў і прычын рэкрутуюцца і рок-неафіты. Яны пакуль мала ўяўляюць стан і тэндэнцыі ў айчынным андэграўндным асяроддзі, але выказваюць да яго цікаўнасць. І такія канцэрты даюць ім падставу зрабіць свой выбар: ці то заставацца па-ранейшаму на ўзбочыне агульнабеларускага рок-руху, ці стаць яго сапраўдным прыхільнікам.

І вось вядучы канцэрта Аляксандр Памідораў, пад традыцыйны лозунг «бээанаўскай» тарсіды «Жыве рок-н-рол!», якія стаў яе дэвізам, абвяшчае, што на сцэну клуба запрашаюцца госці з Бярозы — гурт «:B:N:» з іх новым альбомам «Крок за крокам». Зыходзячы са складу публікі, якая ў гэты дзень зайшла ў клуб «RE: PUBLIC», музыканты і абралі плэй-ліст канцэрта: акцэнт быў зроблены на старыя, правераныя хіты «:B:N:», якія выконваліся разам з новым песнямі альбома «Крок за крокам». Пачатак канцэртнай праграме паклалі такія песні, як «Гарады», «Усё ад лені», «Спіралі», «Толькі я», а потым сэт быў працягнуты навінкамі — кампазіцыямі «Мой шалёны дзень», «Мы ідзем разам», якія паказалі слухачам напрамак далейшага развіцця калектыву. У многім ён застаўся нязменным: тут і рок-н-рольная хітовасць мелодый, гітарны драйв і рытм, эмацыянальная насычанасць і празрыстая зразумеласць тэкстаў. Хоць у музычных навінках гурта адчувалася схільнасць да большай рознабаковасці ў аранжыроўках і стылістычных пошуках музыкантаў. У гэтым сэнсе можна адзначыць наступныя кампазіцыі новага альбома, якія гучалі на прэзентацыі: «Зрабі сябе сам», «Крок за крокам», філасофскі «Сэнс» і шмат іншых твораў.

Падчас выканання гэтых песень адразу стала відавочна, што з прыходам у гурт новага барабаншчыка Змітра Харатановіча рытм-секцыя (разам з басістам А. Зайцавым) гурта «:B:N:» стала больш акцэнтаванай, што вельмі станоўча для гурта, які робіць стаўку на новае прачытанне рок-н-рольных канонаў. Дарэчы, Змітер выступіў і як перкусіяніст, калі разам з лідарам «:B:N:» Алесем Лютычам выканаў у акустычным варыянце песню з першага альбому «Не трывай».

Не было нечаканасцю і тое, што гэты хіт, як і шмат старых і новых кампазіцый, слухачы выконвалі разам з музыкантамі, нават з новага прэзентаванага альбома! Дарэчы, трэба адзначыць іх не толькі вакальную актыўнасць, але ў нейкім сэнсе і згуртаванасць. Маю на ўвазе перформанс, які зладзілі слухачы, калі па зместу песні запатрабавалася сесці на клубную падлогу. Усе як па камандзе ўкленчылі ці прыселі, але спяваць не перасталі. Дзіўнае, але радаснае відовішча! Гэтак жа і пасля, калі А. Памідораў абвясціў аматарскі конкурс на званне беларускай «rock-star». Проста трэба было выйсці на сцэну і ў мікрафон заспяваць песню «:B: N:», якая падабаецца ўдзельніку конкурсу. Слухачы шчыра дапамагалі канкурсантам, а перамагла дзяўчына, якую звалі Надзея. Прызам за яе смеласць і веданне творчасці бярозаўцаў стаў дыск з альбомам «Крок за крокам», а таксама агульнае са слухачамі і Алесем Лютычам акапэльнае выкананне хіта «:B: N:» «Моднікі».

На клубную сцэну выходзіла яшчэ адна дзяўчына — спявачка Кацярына Муратава (сярод музыкантаў вядомая як Радыстка Кэт), добра знаёмая слухачам па відэакліпу «Дажджамі» і мінулым канцэртам гурта. І гэтым разам яна вельмі прафесійна дапамагла сябрам выканаць гэтую лірычную кампазіцыю, а таксама праспявала вакальныя партыі ў песні «Нас няма» з новага альбома «:B:N:».

Частка творчасці гурта — гэта апрацоўкі беларускага фальклору ў «цяжкім» гучанні, да якога музыканты ставяцца вельмі паважліва. Але са сваім разуменнем і падыходам да аранжыровак твора. Гэтым разам бярозаўскія музыканты прадставілі на суд прыхільнікаў сваю версію беларускай народнай песні «Ружа» ў апрацоўцы У. Мулявіна. Дарэчы, гэты кавер з новага альбома быў прысвечаны памяці легендарнага кіраўніка «Песняроў». У «:B:N:» гэтая кампазіцыя атрымалася не менш лірычнай, чым у арыгінале ў Мулявіна, але з іншымі рытмічнымі акцэнтамі. Што яе зусім не сапсавала, а зрабіла больш блізкай сучаснаму слухачу. Як гэта здарылася і з кампазіцыяй паводле беларускага фальклору «Канюшня», якой завяршылі сваю ўдарную прэзентацыю музыканты гурта «:B:N:».

## КНІГАРНЯ

**Антон Кулон. «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Мінск, І. П. Логвінаў, 2012. — 304 с.**




Прызнаюся, што чытаць цалкам гэту кнігу я не збіраўся. Бо па тэме яна як бы не да мяне: не злоўжываю, дый у рэдакцыі ніхто не ўжывае. Але ж співаецца Беларусь. І аўтара ведаю гадоў дзвацаць. Таму ўзяўся за кніжку, каб уважліва перагартаць і напісаць тэкст для гэтай рэкламкі. Мо камусьці і дапаможа гэта «Сіняя кніга» вырвацца з палону «зялёнага змея». І… прачытаў усю. Бо напісана кніга таленавіта. Без надрыву і самабічавання, маралізатарства і позы. Як за сваё п'янства, так і за сваю над ім перамогу. Шчыры аповед, яркая беларуская мова, лёгкі гумар і тактоўная іронія.

Кніга абсалютна дакументальная, але і літаратурны твор у жанры эсэ (амо, дакладней, нават, навелы). Праз пэўныя падзеі і канкрэтных людзей аўтар разгортвае перад намі карціну Мінску алкагольнага апошняй чвэрці XX стагоддзя. Карціну каларытную і своеасаблівую — алкагольнага Мінску савецкага разліву. Яго геаграфію — піўніц, забягалавак, «чарачніц», кафэ, бараў, двароў і падваротняў. Яго псіхалогію і норавы. І яго дзеючых асоб. Не ўсіх, а свайго толькі кола таварышавання, свайго «карасу» — літаратараў, мастакоў, музыкаў, тэхнічнай інтэлігенцыі. І кожны з іх — лёс, характар, вобраз. І трагедыя. Назаву толькі некаторыя з імён — Міхась Стральцоў, Мікола Капыловіч, Віктар Стрыж, Сцяпан Гаўрусёў, Кім Хадзееў…

Антон Кулон — псеўданім. Аўтар чамусьці яшчэ вырашыў не называцца сваім імем. Думаю, дарэмна. Чалавек ён даволі вядомы. За 9 год цвярозага жыцця пасля 30 гадоў жыцця п'янога — дзве манаграфіі, выкладчыцкая праца. Гэта кніга дадала б яму толькі большай вядомасці і павагі. Ці не прыйшоў час расшыфравацца да канца, спадар Анатоль?

**Аляксандр Тамковіч. «Арытмія, альбо код супраціву». Смаленск, «Родина», 2012. — 278 с.**



Гэта кніга напісана Аляксандрам Тамковічам у працяг першай кнігі «Асобы», што выйшла ў 2008 годзе. Героямі першай былі 30 палітыкаў, героямі другой — 38 дзеячаў так званага «трэцяга сектара» — сектара грамадскіх арганізацый.

Па сутнасці ў цыкле нарысаў Аляксандра Тамковіча, што адзін за адным ад 2007 года друкаваліся на старонках «Новага часу», знайшла адлюстраванне найноўшая гісторыя Беларусі. Гісторыя ў асобах. Розных — са сваімі характарамі, схільнасцямі, лёсамі. Але ўсе як адзін — асобы яркія, таленавітыя, самастойныя, з развітым пачуццём уласнай чалавечай годнасці, здольныя на ўчынак, што і не дазваляе ім скарыцца, прыняць хлусню, схіліць галаву перад абставінамі і чужой злачыннай воляй.

Аляксей Кароль

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1073

Падпісана да друку 19.10.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.